№ 16 (901) 29 красавіка 2015
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Якімі былі апошнія дні айца Аляксандра Надсана.

Старонка 12

ДЗЯНІС РАМАНЮК

# Далей вы старайцеся

## «Начных ваўкоў» не ўпусцілі ў Еўропу



AFP PHOTO / ANDREY VASILEVICH

Затое ў Беларусі рускіх шавіністаў сустрэлі з пашанай.

Старонка 4

**Канечне падпісвайся!**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Польшча перанесла Дзень Перамогі на 8 мая

**Расія абураная** «пераглядам гісторыі».

Сейм Польшчы падтрымаў праект пастановы, якая прадугледжвае святкаванне Нацыянальнага дня перамогі 8 мая замест свята Перамогі і свабоды 9 мая.

На думку аўтараў пастановы, «прычын, каб прымаць у Польшчы тлумачэнне завяршэння вайны, што дзейнічала ў СССР, няма. Трэба памятаць, што завяршэнне Другой сусветнай вайны ў Еўропе ў выпадку з дзяржавамі, занятымі Чырвонай Арміяй, у якіх былі ўведзеныя нявыбарныя ўрады і недэмакратычная палітычная сістэма, цяжка лічыць трыумфам свабоды».

У Польшчы Дзень Перамогі некалькі дзесяцігоддзяў адзначаўся 9 мая. З 1989 свята было перанесенае на 8 мая, як ва ўсёй Еўропе, але заканадаўча гэта не было замацавана. Калі Сенат і прэзідэнт падтрымаюць рашэнне Сейма, Польшча ўжо ў гэтым годзе можа афіцыйна адзначаць завяршэнне Другой сусветнай вайны 8 мая.

Афіцыйны прадстаўнік МЗС Расіі ў Польшчы Аляксандр Лукашэвіч заявіў, што намер Польшчы «варты жалю». «Гэта спроба груба перагледзець гістарычныя дасягненні нашых народаў у Вялікай Айчыннай вайне. Бракуе чалавечых слоў, наколькі гістарычная памяць кароткая ў некаторых народаў», — сказаў ён.

**У чым розніца?**

Акт аб капітуляцыі быў падпісаны 8 мая, у 22:43 па цэнтральнаеўрапейскім часе. Па маскоўскім часе тады было 00:43 9 мая.



КІРЫЛ ХАЛЬКО

**У Мінску вешаюць плакаты «Кветкі вялікай перамогі».**

# 7 фактаў пра Дзень Перамогі, якіх вы не ведалі

**1.** Апроч Беларусі, з краін былога СССР 9 мая як Дзень Перамогі святкуюць Арменія, Азербайджан, Грузія, Казахстан, Кыргызстан, Малдова, Расія, Таджыкістан, Туркменістан. Ва Узбекістане на 9 Мая адзначаецца Дзень Памяці і Пашаны. Таксама ў гэты дзень свята адзначаецца ў Ізраілі, Чарнагорыі і Сербіі.

**2.** Украіна, як і большасць еўрапейскіх краін, з гэтага года будзе святкаваць Дзень Перамогі 8 мая. А 7 мая прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка разам са сваімі калегамі з 11 еўрапейскіх дзяржаў (Польшчы, Славакіі, Чэхіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі, Харватыі і Славеніі) возьме ўдзел ва ўрачыстасцях у Гданьску.

**3.** Дзень Перамогі быў у Савецкім Саюзе выхадным днём у 1945–1948 гады, пасля чаго стаў працоўным. І толькі ў 1965 годзе, пры Брэжневе, Дзень Перамогі зноў быў аб'яўлены свабодным ад працы.

**4.** У савецкі час вайсковым парадам і іншага кшталту ўрачыстасцям не надавалі такой вялікай увагі, як, напрыклад, цяпер у Беларусі ці Расіі. Так, за ўвесь час у СССР вайсковыя парады на Краснай плошчы адбываліся толькі ў юбілейныя гады — 1965, 1975, 1985 і 1990. І толькі з 1995 года ў Расіі пачаліся штогадовыя парады. А з 2008 — з удзелам тэхнікі і авіяцыі.

**5.** Сёлета вайсковыя парады ў Кыргызстане і Таджыкістане пройдуць не 9 мая, як звычайна, а 7 мая, паколькі ў наступныя дні прэзідэнты гэтых дзяржаў будуць знаходзіцца на святкаванні ў Маскве. Казахстан таксама правядзе свой парад 7 мая, але з нагоды гадавіны ўтварэння ўзброеных сілаў краіны.

**6.** З гэтага года ад «георгіеўскіх стужак» адмовіліся ў Беларусі, Украіне, Казахстане і Кыргызстане. У Беларусі, Казахстане і Кыргызстане замест аранжава-чорных будуць раздаваць усім ахвотным стужкі ў колерах дзяржаўных сцягоў гэтых краін. Ва Украіне ж прапаноўваюць замяніць гэтыя стужкі на кветкі маку, якія выкарыстоўваюцца, напрыклад, у Вялікабрытаніі, каб ушанаваць памяць усіх вайскоўцаў, якія загінулі ў канфліктах пасля 1914 года.

**7.** У Францыі Дзень Перамогі святкуецца без вялікага размаху, хоць і з'яўляецца адным з найважнейшых дзяржаўных святаў. 8 мая адбываецца агляд войскаў прэзідэнтам краіны, а таксама ўскладанне вянкоў да Магілы Невядомага салдата.

**Зміцер Міцкевіч**

# «Лукашэнка да мяне на «ты» — і я да яго на «ты»

Слаўгарадскаму бэнэфаўцу Феліксу Шкірманкову дазволілі **не плаціць падатак на аўто.**

У гадавіну Чарнобыльскай трагедыі Аляксандр Лукашэнка наведаў Слаўгарад (Магілёўская вобласць). Падчас наведвання горада ў яго адбылася размова з сябрам Партыі БНФ і ТБМ, ветэранам вайны, былым старшынёй Слаўгарадскага райсавета Феліксам Шкірманковым.

«Яшчэ а 8-й раніцы да мяне завітала кіраўніцтва раёна, я 'шчэ з ложка нават не ўставаў. Кажуць, да нас прыязджае прэзідэнт, трэба ад імя жыхароў прывітаць яго. Усё зраблю як трэба, адказваю, — расказвае Шкірманкоў. — Перад пачаткам сустрэчы гэбісты, ці хто там з Мінска, двойчы падыходзілі да мяне і ўсё ўдакладнялі, што менавіта я буду пытацца ў Лукашэнкі. Іншыя ветэраны, дарэчы, так нічога і не гаварылі. Толькі мне слова далі».

«Нас пасадзілі перад Лукашэнкам — пяць ветэранаў. Праўда, двое з іх такія, «фіктыўныя». Лукашэнка па чарзе падыходзіў да ўсіх, цісную руку. Падышоў да мяне, я пачынаю падымацца. Ён мне па-руску кажа: «Сядзісядзі, не падымайся». На што я адказваю па-беларуску: «Ну як так, прэзідэнт стаіць, а я сядзець буду, — працягвае ён. — Я да яго звяртаўся на ты, бо і ён гаварыў на ты. Падумаў, што я старэйшы, то чаго выкаць буду. Лукашэнка адразу перайшоў на беларускую мову, і наша гутарка з ім вялася па-беларуску».

Феліксу Шкірманкоў нарадзіўся ў 1926 у Прапойску, цяперашнім Слаўгарадзе. Ён вэтэран вайны, у свой час быў старшынёй райсавета. Ён сябар Партыі БНФ і ТБМ.



**Фелікс Шкірманкоў:** Прыняты дарожны закон. Інвалідаў вайны на ўсёй Беларусі 3 тысячы — ёсць такая статыстыка. З гэтых трох тысяч ці набярэцца 20—30 чалавек, якія маюць правы кіравання аўтамабілем?

**Аляксандр Лукашэнка:** Карацей, вызваліць ад дарожнага падатку?

**ФШ:** Ды гэта ж смешна! Ну што…

Лукашэнка пад смех прысутных перабіў яго, і некалькі секунд суразмоўцы нешта казалі хорам.

**АЛ:** Ну, дамовіліся, дамовіліся.

**ФШ:** Дамовіліся?

**АЛ:** Дамовіліся!

Спадар Фелікс скарыстаўся момантам і запытаўся пра падатак на аўто (глядзі стэнаграму). «У мяне «Пежо-306», 1998 года выпуску. Я на ёй у год наязджаю каля 3000 кілометраў», — тлумачыць Шкірманкоў.

**Зміцер Панкавец**



## Сцісла

**АГП афіцыйна вылучыла Лябедзьку ў прэзідэнты**

«Мы бачым, што шэраг апазіцыйных сіл гатовы падыграць рэжыму. Тым самым яны — вольна ці мімаволі — павялічваюць шанцы рэжыму на прызнанне», — сцвярджаецца ў заяве Палітрады АГП.

**Атрымалі бензін АІ-98-К5**

Упершыню ў гісторыі беларускай нафтаперапрацоўкі на Мазырскім НПЗ выраблены высокаактанавы бензін АІ-98 класа 5. Плануецца, што беларускі высокаактанавы бензін будзе пастаўляцца і на ўнутраны рынак, і на экспарт.

**Першы штраф за пірацкую Windows**

Група кампаній «Родная старонка» выплаціць 7,2 мільёна рублёў, яе супрацоўнік — яшчэ каля 4 мільёнаў. Гэта першы прэцэдэнт такога кшталту ў Беларусі.

**У Мінску налічылі да 130 тысяч дармаедаў**

Міністэрства па падатках і зборах ужо пачало супольна з іншымі дзяржорганамі фармаваць спісы выплатнікаў збору.

**АА, ЯМ**

## Апытанні на nn.by

**Ці ўхваляеце Вы рашэнне Аляксандра Лукашэнкі не ехаць у Маскву на 9 Мая?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 943 | 59% |
| Не | 89 | 6% |
| Так, але баюся рэакцыі Пуціна | 41 | 3% |
| Часткова так, але не адабраю рашэння паехаць туды 8-га | 534 | 33% |

Прагаласавала 1607 чалавек

**Ці баіцеся Вы радыяцыі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 466 | 55% |
| Не | 82 | 10% |
| Раней баяўся, цяпер не думаю | 100 | 12% |
| Раней баяўся, цяпер прывык | 118 | 14% |
| Раней баяўся, цяпер зразумеў, што страх быў перабольшаны | 22 | 3% |
| Я жыву далёка ад Чарнобыля | 63 | 7% |

Прагаласавала 851 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 20—28 красавіка

1 Большасць беларускіх байкераў адмовілася далучыцца да прабегу расійскіх Начных ваўкоў

2 Інфармацыя пра напад гасцей са Смаленска на беларускую дзяўчыну аказалася фэйкам

3 9-гадовы хлопчык, што прапаў у Мінску 22 красавіка, знойдзены гэтай ноччу жывым

4 Загінуў беларус Сяргей Сцебіхаў, які ваяваў на ўсходзе Украіны на баку расійскіх баевікоў

5 Кірыла Сілівончык — беларус, асуджаны ў Расіі да двух гадоў турмы за антырасійскія заклікі

6 Фелікс Шкірманкоў: Лукашэнка да мяне на «ты» — і я да яго на «ты»

7 Някляеў: Мы дамовіліся, каб грошай не давалі нікому, акрамя «Гавары праўду»

8 «Усё пачалося з мяне»: «Наша Ніва» адшукала таго глуханямога

9 Памёр Вова Банько (Ярыла Пшанічны)

10 Газета Віцебскай епархіі БПЦ «Наше православие» заклікае вернікаў ваяваць за «ДНР» і «ЛНР»

# Кірыла Сілівончык: беларуса асудзілі ў Расіі да двух гадоў турмы за антырасійскія заклікі

22-гадовы беларус размясціў у сябе «Укантакце» сапраўды радыкальнае выказванне. Прычым па дурасці: яму спадабалася праўкраінская карцінка, і ён яе «перапосціў» — гэта значыць скапіяваў на сваю старонку, не ўчытаўшыся. Ніхто мо не звярнуў бы ўвагі, ці мала ўсякага шлаку ў інтэрнэце, але ён працаваў сістэмным адміністратарам на вайсковым заводзе ў Ніжнім Ноўгарадзе, а ўсе такія ўстановы, вядома ж, на асаблівым кантролі ў ФСБ...

Яго пасадзілі на два гады, а маглі і ўсе сем упаяць. Артыкул падабралі непрыемны: «апраўданне тэрарызму ці заклікі да яго».

«Таленавіты хлопец!» — у адзін голас кажуць адвакатка і знаёмыя. З вёскі, са Светлагорскага раёна, інвалід трэцяй групы з дзяцінства, а сам вывучыўся на камп'ютаршчыка. Работы ў Гомелі не было, мусіў выехаць у Расію.

І патрыёт Беларусі — відно па ягоным «Укантакце». Прынцыпова па-беларуску размаўляў. Ён не толькі перапошчваў палітычныя паблікі, але і прызнанне ў сваіх пачуццях да дзяўчыны змясціў па-беларуску.

Дарэчы, ягоная каханая чакае яго. У 4-ю гадавіну іх знаёмства, 19 красавіка, яна змясціла ў сябе «Укантакце» шчымлівыя верш і фота



Калі Расія напала на Украіну, не змог маўчаць. Стаў у інтэрнэце адстойваць украінскі бок.

«Не тая фраза была матывам перапосту», — сказаў Кірыл Сілівончык сваёй новай адвакатцы Святлане Лактыёнавай пра злашчасны сказ з радыкальнымі заклікамі. Аднак хлопец прызнаў сваю віну і адмовіўся ад абскарджвання прысуду.

З ягоных словаў, ён узяў гэты малюнак у групе "Украінска-беларускае брацтва» «Укантакце». На ім украінскі салдат стаіць на расійскім сцягу і завязвае ў вузел шыі двухгаловага арла.

Мы шукалі той пост у інтэрнэце, але не знайшлі яго ані на сцяне Сілівончыка, ані ў кэшы.

Сілівончык не ведае, ці мог той перапост быць правакацыяй. «Украінска-беларускае брацтва» змяшчалася з беларускага IP-адраса, таму было недасяжнае для расійскага правасуддзя.

Са словаў адвакаткі Сілівончык ведае, што грамадскасць і блізкія яго падтрымліваюць, і гэта яго вельмі трымае ў духу. Ён ні на што не скардзіцца. Выглядае ён, па словах адвакаткі, нармальна. Ён быў уражаны, што суайчыннікі аплацілі яму новага адваката.

Новую адвакатку Сілівончыку наняў беларускі хрысціянскі актывіст Андрэй Кім, калі стала вядома, што яго першая адвакатка з часу працэсу была рэкамендаваная ФСБ, раней удзельнічала ў іншых працэсах, ініцыяваных расійскімі спецслужбамі, і мае неадназначную рэпутацыю.

Праваабаронца Таццяна Гацура-Яворская не бярэцца ацэньваць адэкватнасць абвінавачвання і пакарання, пакуль не атрыманы поўны тэкст прысуду. Яна дзякуе Андрэю Кіму: «Дзякуючы яму ўдалося наняць новага адваката і пачуць новую інфармацыю. Важна, што беларусы праявілі аператыўнасць і неабыякавасць».

Што да самога Сілівончыка, то Гацура-Яворская звяртае ўвагу на тое, што ён не абскарджваў прысуду. «Гэта пазіцыя дарослага чалавека, які адказвае за свае дзеянні, і гэта выклікае павагу да гэтага беларуса».

На сёння Кірыла Сілівончык працягвае знаходзіцца ў СІЗА №1 горада Ніжні Ноўгарад па адрасе: 603009 Нижегородская обл., г. Нижний Новгород, пр. Гагарина, 26а, Кирилл Валерьевич Силивончик, 1992 г.р.

У найбліжэйшы час Галоўнае ўпраўленне выканання пакаранняў мае вызначыць, у якой калоніі-пасяленні Сілівончык мае адбыць свой тэрмін.

Калонія-пасяленне — гэта пакаранне мякчэйшае, чым беларуская «хімія». Асуджаны да яе можа працаваць, а можа і не працаваць — як сам хоча. Таксама сваякам дазваляюць пражываць разам з ім.

Маці Сілівончыка працуе ў Светлагорскім раёне ў сталоўцы. Яна ўдзячная ўсім, хто праз інтэрнэт уздымае голас за вызваленне сына. Толькі ёй не надта верыцца, што гэта нешта зменіць у Кірылавай долі: «Каб ён быў у Беларусі, то, можа, і дапамагло б. А там жа Расея. У іх свае законы».

**Мікола Бугай**

## Газета Віцебскай епархіі БПЦ «Наше православие» заклікае вернікаў ваяваць за «ДНР» і «ЛНР»

Рэдактарам газеты з'яўляецца вядомы дзеяч рускага руху **Андрэй Герашчанка**.

У праваслаўных цэрквах Віцебска, а таксама вобласці распаўсюджваецца газета «Наше православие». Гэта афіцыйны друкаваны орган Віцебскай епархіі БПЦ. Наклад — 1000 асобнікаў. Старыя нумары распаўсюджваюцца ў цэрквах бясплатна.

Актывіст кампаніі «Маладая Беларусь», праваслаўны вернік Аляксандр Галавань, азнаёміўся са зместам газеты. «Выданне друкуе інтэрв'ю з расейскімі наймітамі, сепаратыстамі з шэрагу «ДНР» і «ЛНР» на сваіх старонках і адкрыта ўсхваляе тым удзел праваслаўных вернікаў ва ўзброеным канфлікце ва Украіне», — кажа Галавань.

У сакавіцкім нумары «Наше православие» надрукавала матэрыял з назвай «Запад не может смириться с тем, что Россия окрепла». Гэта гутарка з Маргарытай Зайдлер, грамадзянкай Германіі, якая ваюе за баевікоў «Наваросіі». Зайдлер прызнаецца, што «приняла Православие и стала в ряды ополченцев в осаждённом Славянске, а затем в Донецке» і зараз ваюе там «не только против фашизма, а именно за веру православную».

Няўдзел праваслаўнага верніка ў ваенным канфлікце ва Украіне (вуснамі М.Зайдлер), «когда веру вера Православная и Отечество в опасности», называецца грахом.

«Я считаю ... грехом сложить руки и сказать: «Ну, я верующий, пацифист, я не могу брать в руки оружие». Далей «ополченцев» і сябе асабіста яна ставіць у адзін шэраг з Александрам Неўскім і Сергіем Раданежскім», — расказвае жыхар Віцебска Аляксандр Галавань.

Актывіст «Маладой Беларусі» задаецца пытаннем, ці не падпадаюць дадзеныя заклікі і «публікацыі» пад артыкул 123 Крымінальна кодэкса РБ «Прапаганда вайны».

Дарэчы, адметна, што галоўным рэдактарам газеты «Наше православие» з'яўляецца актывіст рускага руху Андрэй Герашчанка. Раней ён працаваў начальнікам аддзела па справах моладзі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска.

У сваіх шматлікіх матэрыялах ён адмаўляў існаванне беларускай нацыі і дзяржавы. Праз некаторы час яго звольнілі з чыноўніцкай пасады.

**Зміцер Панкавец**

## Расія рэзка асудзіла правядзенне саміту «Усходняга партнёрства» ў Рызе

Гэта мерапрыемства мае відавочна **антырасійскую накіраванасць**, заяўляюць у расійскім МЗС.

«Вельмі адмоўна ставімся. Мы, вядома, будзем сачыць за тым, як будзе праходзіць саміт у Рызе, але ўжо відавочна, што наша рэакцыя будзе дастаткова жорсткай і прынцыповай, бо мы бачым, куды рухаецца гэта партнёрства і якія адценні яно набывае з улікам пазіцый удзельнікаў гэтай праграмы з боку перш за ўсё Еўрапейскага Саюза», — заявіў афіцыйны прадстаўнік МЗС РФ Аляксандр Лукашэвіч на брыфінгу ў Маскве.

У саміце «Усходняга партнёрства» ў Рызе ў маі прадугледжваецца ўдзел Беларусі. Праўда, у якім фармаце, пакуль невядома.

Так, прэзідэнт Латвіі Андрыс Берзіньш раней заявіў, што гатовы правесці афіцыйную сустрэчу з Аляксандрам Лукашэнкам, калі той прыедзе на саміт.

**АГ**



## За «Наваросію» загінуў першы беларус

**Сяргей Сцебіхаў** ваяваў на ўсходзе Украіны на баку расійскіх баевікоў.

20 красавіка ў так званай «Наваросіі» загінуў беларус Сяргей Сцебіхаў. Яму было 40 гадоў, ураджэнец Асіповічаў. Ён быў у шэрагах «Добраахвотнага камуністычнага атрада», меў пазыўны Вараг.

Суполка «Добраахвотнага камуністычнага атрада» паведамляе, што Сцебіхаў падарваўся на расцяжцы. «Маленькі аскепак трапіў яму ў шыю, смерць была імгненнай. Пяць дзён таму яму споўнілася 40», — напісана ў паведамленні.

«Ён не быў ні рускім, ні украінцам, але ён быў наскрозь прасякнуты рускім духам, ён беларус», — напісаў «Укантакце» сепаратыст Аляксей Сучкоў.

На старонцы ўдзельніка камуністычнага атрада Сяргея Сцебіхава «Укантакце» стаіць статус «За Русь святую!».

Ёсць звесткі, што ў Беларусі Сцебіхаў быў крымінальным аўтарытэтам. 26 красавіка яго пахавалі ў Асіповічах.

Гэта першая пацверджаная інфармацыя пра смерць беларуса ў вайне на ўсходзе Украіны. Паводле некаторых звестак, каля дзясятка беларусаў ваюе там на расійскім баку і некалькі дзясяткаў — на ўкраінскім.

**ЗП, СМ**

# «Начных ваўкоў» не пусцілі ў Еўропу

Затое ў Беларусі байкераў, што ўдзельнічалі ў захопе Крыма і Данбаса, **сустракалі з пашанаю**.

Чаму такая павышаная ўвага да нейкіх байкераў? У любым грамадстве аб'яднанні аматараў матацыклаў даволі маргінальныя. Але выпадак з «Начнымі ваўкамі» не той.

Лідар «Начных ваўкоў» Аляксандр Хірург Залдастанаў, хоць і называе сябе бунтаром, але агітуе ўсімі магчымымі спосабамі за Уладзіміра Пуціна. Прэзідэнт Расіі нават лічыць «важака зграі сваім сябрам». «Нават калі ўсе будуць крычаць: «Укрыжуй яго, укрыжуй!», я ўсё адно не адвярнуся ад Пуціна», — казаў Хірург у інтэрв'ю. Такая вось ненавязлівая паралель з Ісусам.

Калі пачыналіся крымскія падзеі, то менавіта «Начныя ваўкі» стаялі ў ачапленні будынка Севастопальскай адміністрацыі, каб туды не змаглі трапіць пратэстоўцы. Яны ж займаліся запалохваннем людзей, якія выступалі супраць далучэння паўвострава да Расіі.

Увогуле, гэтыя байкеры пачынаючы ад 2008 года праводзілі акцыі з вывешваннем расійскіх сцягоў у Крыме. Гэткае зандаванне глебы. Пасля яны дапамагалі набіраць баевікоў у так званыя «ДНР» і «ЛНР».

А яшчэ ў «Начных ваўкоў» цесная сувязь з праваслаўнай царквой. Яны неаднаразова бралі ўдзел ва ўсемагчымых хросных хадах.

Не такія ўжо і бяскрыўдныя ваўкі выходзяць, праўда? Гэткая грымучая сумесь самадзяржаўя, пуцінізму, праваслаўя, камунізма.

І такая вось шайка-лейка мела на мэце праехацца да Берліна ў гонар 70-годдзя Перамогі. Вядома, што дарога ляжыць праз Беларусь.

Палітычныя партыі і грамадскія рухі прасілі ўлады не дазваляць «Начным ваўкам» ехаць праз тэрыторыю нашай краіны, бо захопу Крыма і усходняга Данбаса Расіяй папярэднічалі ў тым ліку і прабегі «Начных ваўкоў» туды.

У відэазвароце, размешчаным на «Ютубе», Зянон Пазняк назваў планы расійскіх байкераў «не проста правакацыяй, а нахабнай пазіцыяй людзей, якія не лічаць патрэбным лічыцца ні з чым святым». «Гэтыя людзі, якія бралі ўдзел у акупацыі Украіны, якія выказвалі фашысцкія лозунгі, хочуць праехаць па Беларусі, якая страціла столькі людзей падчас апошняй вайны», — заявіў старшыня КХП-БНФ.

Ведаючы норавы «Начных ваўкоў», Германія і Польшча сталі скасоўваць візы вядомым ім байкерам. Тут жа за матыцыклістаў заступіўся расійскі МЗС, які назваў «кашчунствам» адмову Польшчы прапусціць байкераў праз мяжу. Ці за ўсіх сваіх грамадзян расійскі МЗС так аператыўна заступаецца?

У Беларусі «Начных ваўкоў» чакалі ў ноч на 26 красавіка. Грамадскія актывісты Вольга Мікалайчык, Андрэй Мельнікаў і Леанід Кулакоў падрыхтавалі да сустрэчы «пуцінскіх» байкераў плакат «Акупанты — вон», жоўта-блакітны і бел-чырвона-белы сцягі і партрэт загінулага на Майдане беларуса Міхаіла Жызнеўскага. Праўда, «ваўкі» вырашылі затрымацца ў Смаленску. А да Мінска даехалі толькі нараніцу.

І вось на Кургане Славы матацыклістаў сустракалі хлебам-соллю. Быў нават сам Ігар Бузоўскі, намеснік старшыні Адміністрацыі прэзідэнта, адказны там за ідэалогію. БРСМ зладзіў мытынг з выкарыстаннем чырвона-зялёных сцягоў, а байкерам начапілі чырвона-зялёныя стужкі з цветам яблыні. Магчыма, якраз таму расійскіх і імперскіх сцягоў на мерапрыемстве не было.

А вось на мяжы з Еўрасаюзам такога гасціннага прыёму «Начныя ваўкі» не дачакаліся. Праз памежны пераход Цярэспаль змог прайсці толькі адзін байкер Шэрыф, які сказаў, што не належыць да «Начных ваўкоў». Астатнім ва ўездзе было адмоўлена. Гэтак жа зрабіла і Літва.

Самому Залдастанаву Польшча анулявала візу, а астатнім паведаміла, што іх уезд на тэрыторыю Еўрасаюза непажаданы.

На наступны дзень у Брэсце на тэрыторыі расійскага консульства Аляксандр Залдастанаў даваў прэс-канферэнцыю, дзе сказаў польскаму журналісту: «Вы дагуляецеся з гэтай русафобіяй. Іншым разам баязлівы чалавек, загнаны ў кут, можа стрэліць. Вось чым можа скончыцца гэтая істэрыя, цемрашальства. Баязлівы чалавек можа націснуць на курок».

Гучыць злавесна не толькі для палякаў.

**Зміцер Панкавец**



Беларускі памежнік зычыць поспехаў «Начным ваўкам».



Ігар Бузоўскі (трэці справа) на сустрэчы «Начных ваўкоў».



З такім пасланнем «Начных ваўкоў» чакалі на Кургане Славы.

«Нас называюць тэрарыстамі, сепаратыстамі, але хіба любіць расійскі і беларускі народы — гэта сепаратызм? Што да Украіны, то тут у мяне, канешне, свая пазіцыя, але прычым тут прабег?» — сказаў старшыня беларускіх «Начных ваўкоў» Аляксей Вакульчык.



**Віктар Лукашэнка ўскладаў кветкі разам з байкерамі**

Памочнік прэзідэнта ў пытаннях бяспекі Віктар Лукашэнка ўзяў удзел у прабегу, які беларускія байкеры зладзілі ў Мінску 25 красавіка.

Калона матацыклістаў адправілася ад салона Harley-Davidson па праспекце Незалежнасці да стэлы «Мінск — горад-герой» на скрыжаванні праспектаў Пераможцаў і Машэрава.

Цікава, што дзяржаўнае інфармагенцтва БелТА не акцэнтавала ўвагу на ўдзеле сына Аляксандра Лукашэнкі ў акцыі.

Ніякага дачынення да прыезду «Начных ваўкоў» мерапрыемства не мае.

**Ягор Марціновіч**

У той жа час

## У Віцебску на канцэрце «Акіяна Эльзы» адбіралі ўкраінскія сцягі

27 красавіка ў Віцебску прайшоў канцэрт гурту «Акіян Эльзы». Было шмат гасцей з Расіі, бо ў іх **выступы гурту забароненыя**.




На танцпляцоўцы была моладзь у вышыванках і вяночках з кветкамі ды стужкамі. Былі ўкраінскія сцягі, але іх забіралі як людзі ў цывільным, якіх у Лядовым палацы было шмат, так і міліцыя. Адну з песень Вакарчук прысвяціў украінцам. Падчас яе нехта з натоўпу кінуў на сцэну пранесены ўкраінскі сцяг, Вакарчук падхапіў яго і працягнуў выступ з ім у руках.

**Настасся Храловіч, Ірына Арахоўская**

# На «Чарнобыльскі шлях» прыйшло 700 чалавек

Сёлета вулічная акцыя на 26 красавіка прайшла пад лозунгам «Не — расійскай ядзернай пагрозе», што адсылала як і да будаўніцтва расійцамі Астравецкай АЭС, так і да агрэсіўнай палітыкі РФ, якая ўжо неаднойчы за апошні час бразгала перад светам ядзернай зброяй. Вядома, былі і заклікі вызваліць палітычных зняволеных: маладафронтаўцы неслі гіганцкі плакат «Свабоду Кірылу Сілівончыку». «Малады фронт» прапанаваў выкінуць у сметніцу апазіцыйныя партыі — «Справядлівы свет», БНФ, БСДП, рухі «Гавары праўду» і «За свабоду», — бо «сваімі рашэннямі яны дыскрэдытуюць дэмакратычны рух Беларусі».

Правядзенню шматлюднай акцыі спрыялі добрае надвор'е і выхадны дзень, аднак прыйшло на «ЧШ» усяго семсот чалавек. У гэтым годзе акцыя прайшла са зменамі. Папершае, час збору скарацілі да 30 хвілін. Па-другое, арганізатары адмовіліся ад мітынгу ў Парку дружбы народаў. Гэта тлумачылася зневажальнай неабходнасцю праходзіць праз рамкі металадэтэктараў, і, па словах арганізатараў, гэта працэдура заняла б больш часу, чым уласна мітынг. Таму фінальным пунктам стаў помнік «Ахвярам Чарнобыля», дзе запалілі знічкі ў памяць аб ахвярах катастрофы на ЧАЭС.



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

Дзмітрый, навучаецца банкаўскай справе, усю атрыбутыку зрабіў сам, матэрыялы набыў у будаўнічай краме.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мінгарвыканкам выставіў заяўнікам акцыі рахунак на 14 мільёнаў рублёў. Гэтыя грошы паабяцалі перавесці на рахунак дзіцячага дома. Але, нягледзячы на дадатковую аплату, паслугі Мінгарвыканкам аказваў не самыя якасныя. Калона некалькі разоў перасякала праезную частку, але даішнікі, якія суправаджалі калону, не перакрывалі дарогу, а спынялі ўдзельнікаў на святлафорах. Каб перайсці вуліцу Бангалор, калоне спатрэбілася 4 цыклы святлафора. Да таго ж пасля акцыі міліцыя груба затрымала Віктара Шапуцьку, але яго неўзабаве выпусцілі. Трэба адзначыць, што ў гэтым годзе сілавікі дзейнічалі надзвычай адкрыта: удзельнікаў на камеры здымалі не «асобы ў цывільным», а байцы АМАПу.

У канцы «Чарнобыльскага шляху» з падачы лідара БНФ Аляксея Янукевіча людзі галасавалі за рэзалюцыю, у якой патрабавалі спыніць будаўніцтва АЭС на тэрыторыі Беларусі, раскрыць інфармацыю аб наступствах Чарнобыля, вывесці з тэрыторыі Беларусі расійскія ўдарныя самалёты, здольныя несці ядзернае ўзбраенне, правесці дэмакратычныя рэформы і вызваліць палітвязняў.

**Кірыла Хілько**

## Ля школы ва Уруччы паставілі разламаны напалам помнік Леніну

Усталявалі помнік у двары школы №84 ва Уруччы 22 красавіка, у дзень нараджэння правадыра расійскай рэвалюцыі.

Створаны яшчэ ў 1950-х помнік раней стаяў на вуліцы Герояў 120-й дывізіі, але падчас рамонту дарогі быў знесены. Па «загадзе зверху» яго перанеслі да школы.

Падчас зносу помнік раскалоўся на два кавалкі, але быў адрамантаваны. Праўда, расколіна на поясе бачная.

Як сцвярджае дырэктар школы Ірына Карповіч, помнік не ўсталёўваўся менавіта пад дзень нараджэння Леніна, а ўрачыста адкрыты будзе 19 мая, на Дзень піянерскай дружбы — пакуль тэрыторыя вакол помніка не добраўпарадкаваная.

На пытанне пра тое, чаму помнік паставілі менавіта каля школы, дырэктар адказала: «У вайсковым гарадку некалькі помнікаў. Пагадзіцеся, было б дзіўна, калі б побач стаялі два Леніны. Але рашэнне аб пераносе менавіта да гэтай школы прыняла праектная арганізацыя».

Агулам у Мінску налічваецца каля 15 помнікаў і бюстаў Леніна.

Самы вялікі стаіць каля Дома ўрада на плошчы Незалежнасці (былой плошчы Леніна). Таксама помнікі Леніну стаяць у двары БДУ, каля заводаў «Камунарка», «Крышталь», мотавелазавода, электратэхнічнага завода, спарткомплекса «СКА-Уручча», вайсковай часці ППА на Лагойскім тракце і ў іншых месцах. Помнік юнаму Леніну стаіць ля дома 91 па праспекце Незалежнасці.

**КХ**



## Наталля Пяткевіч узначаліць турыстычны бізнэс Аляксандра Шакуціна

Былая памочніца прэзідэнта ўзначаліць кампанію **«Шантэр»**.

Упершыню аб гэтым праекце стала вядома падчас сустрэчы Шакуціна з Аляксандрам Лукашэнкам. Сенатар тады анансаваў будаўніцтва некалькіх новых аб'ектаў, у прыватнасці, санаторыя на 240 месцаў і гасцініцы на 150 месцаў.

Паляўнічую гаспадарку «Чырвоны бор» (Верхнядзвінскі раён, Віцебская вобласць) развівае Мікалай Верабей, адзін з партнёраў Шакуціна па машынабудаўнічым холдынгу «Амкадор» і «Салеа», банку «Абсалютбанк», а таксама нафтагандару «Інтэрсэрвіс». Менавіта «Інтэрсэрвіс» арандуе землі на тэрыторыі аднайменнага рэспубліканскага ландшафтнага заказніка. Восенню мінулага года там быў пабудаваны турыстычны комплекс прэміяльнага сегмента.

Тут з'явіліся віп-катэджы і драўляныя дамкі з сонечнымі батарэямі і геатэрмальным ацяпленнем. У «Чырвоным бары» ўзвялі рэстаран, кіназалу, канферэнц-залу, трэнажорную залу, лазню і іншыя абавязковыя атрыбуты такога комплексу.

Для прасоўвання гэтага аб'екта «Інтэрсэрвіс» стварыў кампанію «Шантэр». Яна таксама аб'яднае некалькі аб'ектаў адпачынку «Амкадора». У прыватнасці, санаторый «Пралеска», размешчаны на беразе Мінскага мора, базу адпачынку «Рудакова» на Нарачы, дзіцячы лагер «Даманава» ў Маладзечанскім раёне. Гасцініцу плануецца пабудаваць у складзе дзелавога комплексу, участак пад будаўніцтва якога вылучаны на супрацьлеглым баку ад «Мінск-Арэны».

«Аб'екты будуць сур'ёзна мадэрнізаваныя. У цэлым мы плануем выдаткаваць на рэалізацыю гэтых праектаў больш за $100 мільёнаў, — расказаў старшыня рады дырэктараў холдынгу «Амкадор» Аляксандр Шакуцін. — Мы хочам займацца экспартам паслуг, прыносіць у краіну валютную выручку». «Ужо да нас едуць турысты не толькі з Расіі, але і з цывілізаванай Еўропы — Аўстрыі, Германіі. Мы хочам паказаць, што і ў Беларусі шмат добрых месцаў для адпачынку. Дарэчы, назва кампаніі «Шантэр» расшыфроўваецца як «Шыкоўны Адпачынак На ТЭрыторыі Радзімы», — рэзюмаваў Шакуцін.



**Tut.by**

## Суддзя маладафронтаўцаў і Байковай пайшоў на павышэнне

25 красавіка Аляксандр Лукашэнка зрабіў кадравыя перастаноўкі ў Вярхоўным судзе. Валерый Калінковіч прызначаны першым намеснікам старшыні Вярхоўнага суда.

Ён змяніў на гэтай пасадзе Аляксандра Федарцова, якога ад 1 студзеня перавялі старшынёй суда ЕАЭС.

Што тычыцца Валерыя Калінковіча, то ён амаль 10 гадоў быў намеснікам старшыні Вярхоўнага суда, старшынёй судовай калегіі па крымінальных справах. Цяпер яго ў гэтым крэсле заменіць Руслан Аніскевіч.

У 2007 годзе якраз суддзя Савецкага раёна Мінска Аніскевіч судзіў маладафронтаўцаў Змітра Хведарука, Насту Палажанку, Барыса Гарэцкага, Алега Корбана і Аляксея Янушэўскага па артыкуле 193-1 КК «Дзеянне ад імя незарэгістраванай арганізацыі».

Аніскевіч прыняў справу, калі яе адмовіўся разглядаць іншы суддзя, Аляксей Таманаў, спасла́ўшыся на здароўе. Пасля гэтага кар'ера Руслана Аніскевіча імкліва пайшла ўгору.



У той самы 2007 год яго прызначаюць суддзёй Мінскага гарадскога суда (там ён асудзіў на 3 гады зняволення журналіста Аляксандра Здзвіжкова за друкаванне карыкатур на прарока Мухамеда). А ў 2008 Аніскевіч ужо суддзя Вярхоўнага суда.

У Вярхоўным судзе Руслан Аніскевіч разглядаў рэзанансныя справы пракурора Святланы Байковай, а таксама вядомую «паляўнічую справу» супраць высокапастаўленых супрацоўнікаў МУС. У абодвух працэсах выявіліся супярэчнасці КДБ з іншымі сілавымі структурамі.

**Зміцер Панкавец**

# Мяняць падлогу цяпер можна без дазволу выканкама

А ўсталёўваць **кандыцыянеры і спадарожнікавыя талеркі** — без складання праекта.



У Беларусі прынятыя новыя правілы правядзення рамонту. Дакумент спросціць жыццё тым, хто спрабаваў выконваць усе патрабаванні ўладаў, хай і абсурдныя. Некаторыя з такіх палажэнняў цяпер згубілі актуальнасць.

Папярэднія правілы ўступілі ў сілу два гады таму і выклікалі абурэнне ў грамадстве. Даходзіла да таго, што патрабавалася браць дазвол уладаў на перанос разеткі! А каб пакласці плітку ці ламінат, трэ' было не толькі атрымаць дазвол, але і распрацаваць праект... На ўлады абрынуўся вал зваротаў і скаргаў, і чыноўнікі адступілі.

Рамонтныя працы па-ранейшаму падзяляюцца на тры катэгорыі. Цяпер без распрацоўкі праекта і атрымання дазволу можна:
– мяняць падлогу (напрыклад, плітку на ламінат, а ламінат на лінолеум);
– мяняць дзверы між пакоямі;
– мяняць электраправодку і выключальнікі;
– мяняць унітаз і мыйку, усталёўваць душавую кабіну;
– пераносіць змеявік у ванне;
– пераносіць разеткі;
– рабіць убудаваныя шафы і антрэсолі;
– рабіць шкленне балкона ці лоджыі, мяняць вокны (апроч тых, што выходзяць на галоўныя вуліцы горада).

Наступныя працы па-ранейшаму трэба ўзгадняць у адміністрацыі раёна, але распрацоўка праекта непатрэбная:
– усталёўка новых пярэгарадак у пакоях і дапаможных памяшканнях;
– усталёўка ці разбор сценаў для павелічэння або памяншэння плошчы пакоя;
– усталёўка спадарожнікавых талерак і кандыцыянераў.

Нарэшце, і дазвол, і праект патрэбныя для:
– пераносу газавай пліты;
– гідра-, пара-, цепла- і гукаізаляцыя;
– любых зменаў у апорнай сцяне;
– замены батарэі.

А вось перанос батарэй ацяплення, каб аб'яднаць балкон і жылы пакой, катэгарычна забараняецца. Немагчыма атрымаць дазвол і на перабудову вентыляцыйнай сістэмы.

Ягор Марціновіч

## Як я ўзгадняў кандыцыянер па новых правілах

Ад задумы да атрымання дазволу — **тры дні**.

Працэс узгаднення кандыцыянераў і спадарожнікавых талерак спрасціўся, аднак паранейшаму выклікае шмат пытанняў. Карэспандэнт «НН» праверыў працэдуру на сабе.

Першае, што трэба зрабіць — гэта сфатаграфаваць фасад свайго дома. На здымку крыжыкам адзначыць месца планаванай установкі тэхнікі. Істотная кожная дробязь, напрыклад, кандыцыянер будзе вісець справа ці злева ад акна? «Паглядзіце, як зрабілі суседзі. Архітэктар раёна патрабуе, каб кандыцыянеры віселі адзін пад адным, — раіць старшыня праўлення таварыства ўласнікаў. — Калі вы першапачынальнік, то выбар за вамі».

Раздрукаваны фотаздымак трэба аднесці ў ЖЭС (ці таварыства ўласнікаў), тамсама атрымаць выпіску асабістага рахунка.

З абодвума дакументамі можна звяртацца ў райвыканкам у «Адно акно», далучыўшы копіі тэхнічнага пашпарта кватэры і пасведчання аб рэгістрацыі.

Прысутнасць усіх зарэгістраваных у кватэры пры падачы дакументаў непатрэбная.

Цяпер трэба чакаць — да паўмесяца. Аднак у нашым выпадку рашэнне было гатовае за тры дні. Райвыканкам узгадніў усталёўку кандыцыянера, аднак выставіў шэраг умоваў.

Чыноўнікі вызначылі, што тэхніка павінна знаходзіцца пад акном злева, металічны каркас блока загадалі пафарбаваць пад колер фасада, а таксама вывесці кандэнсат у сістэму каналізацыі. Гэта абавязковае патрабаванне апошняга часу, бо пачасціліся скаргі ад суседзяў, якім перашкаджаюць кроплі вады ад кандыцыянера.

Паколькі распрацоўка праекта непатрэбная, застаецца выклікаць усталёўшчыкаў. Кампаніі, якія займаюцца мантажом, просяць за свае паслугі $100—200.

ЯМ

Працяг тэмы

# Як адсудзіць мільён даляраў у самой сябе

«Маруся» аказалася вінная **сваёй дырэктарцы**.




Беларуская бізнэс-вумэн Марына Падабед, якая разам са сваім мужам Віктарам валодае вытворчасцю дзіцячага адзення «Маруся», ужо была гераіняй публікацый «Нашай Нівы». Нагадаем, на прадпрыемстве заўсёды былі праблемы з выплатай заробкаў. Не дапамагалі нават судовыя пастановы, бо кіраўніцтва «Марусі» ігнаравала іх.

Цяпер усплылі новыя факты з біяграфіі Марыны Падабед. У Рэдакцыю трапіла рашэнне судовай калегіі па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага суда. Паводле яго, Падабед фактычна заключала з самой сабой дамовы на суму каля $1 мільёна.

Пачалося ўсё яшчэ ў 2008-м. Тады адзін з заснавальнікаў «Марусі» вырашыў выйсці з бізнэсу і праз суд забраць сваю долю грошай.

Марына Падабед, якая валодала правамі на таварны знак «Маруся», тым часам зарэгістравалася як індывідуальная прадпрымальніца. Неўзабаве бізнэсвумен заключыла са сваім жа прадпрыемствам дамову. Паводле яе, за выкарыстанне таварнага знака «Маруся» павінна была штомесяц плаціць ІП Падабед 20% ад агульнай цаны адгружанага тавару. Апроч таго, за адтэрміноўку аплаты «Маруся» мусіла плаціць дырэктарцы штрафы па высокіх стаўках.

У выніку, доўг «Марусі» перад ІП Падабед склаў больш за 2,7 мільярда рублёў (па курсе на 2010 год — амаль $1 мільён).

Гэты доўг Марына Падабед перадала новаму прадпрыемству, «Брэнд Фэшн Груп», заснавальніцай і дырэктаркай якога лічыцца Таццяна Прываліхіна, старэнькая маці Марыны Падабед (сама Падабед у кампаніі аформлена спецыялістам па продажах).

Астатнія крэдыторы прадпрыемства засталіся з носам — з рэшты грошай на рахунках «Маруся» павінна спачатку разлічыцца з «Брэнд Фэшн Груп».

У снежні 2014 года суд прызнаў ліцэнзійную дамову паміж ІП Падабед і «Марусяй» нікчэмнай. Але Марына і тут не згубілася. Неўзабаве на свет з'явілася новая ліцэнзійная дамова, амаль такая ж, як і мінулая, толькі датаваная 2010 годам. Раней пра яе існаванне ніхто не ўзгадваў. Таксама з'явіўся і ўвесь астатні камплект дакументаў: дамова пераводу доўга з «Марусі» на «Брэнд Фэшн Груп» і гэтак далей. То бок, усё тое ж самае, толькі замест 2009 года на дакументах стаяў 2010.

Лёс гэтай «новай старой» дамовы ізноў жа будзе разглядаць суд. Тэрмін пасяджэння пакуль не вядомы.

Тым часам былыя супрацоўніцы прадпрыемства, якія і праз некалькі месяцаў пасля звальнення не могуць атрымаць заробак, рыхтуюць калектыўны пазоў у пракуратуру.

Улад Швядовіч

# Жорсткія рэформы павялічаць заробак у краіне да 2020 года да $1075

Але гэта прывядзе **да росту беспрацоўя**.

Нацыянальная Акадэмія навук падрыхтавала прагноз эканамічнага развіцця Беларусі да 2030 года. Даследчыкі адзначаюць, што ў найбліжэйшыя гады ключавую ролю ў эканоміцы будуць мець нанатэхналогіі. Каб наблізіць Беларусь да сусветных тэндэнцый, навукоўцы прапануюць праводзіць структурныя рэформы. Якім будзе іх плён?

Акадэмія навук разгледзела тры сцэнары развіцця эканомікі. Жорсткія рэформы прадугледжваюць, што інвестыцыйна-фінансавыя плыні будуць штогод пераразмяркоўвацца між галінамі эканомікі на 10%. Рэалізацыя гэтага радыкальнага варыянта дасць хуткі эфект. Ужо да 2020 года сярэдні заробак вырасце да $1075. Аднак у наступныя гады, калі давядзецца адналяць балансы ў эканоміцы, заробак скароціцца.

Эканамісты бачаць у гэтым варыянце пагрозы для беларускай мадэлі. «Сцэнар выкліча рэзкі рост беспрацоўя ў нізкарэнтабельных прадпрыемствах і разрыў каапэрацыйных сувязяў унутры галінаў», — адзначаецца ў прагнозе.

Наступны варыянт — мяккія рэформы. У такім выпадку штогод будзе пераразмяркоўвацца 5% інвестыцыйна-фінансавых плыняў. Чакаецца, што сярэдні заробак да 2020 года вырасце да $1050, пасля рост замарозіцца, а ў 2030 годзе дасягне $1124.

І пры «пасіўным сцэнары» рэформы будуць запавольныя ці ўвогуле не будуць праводзіцца. Спецыялізацыя вытворчасці і дысбалансы ў гаспадарцы застануцца ранейшымі. Але заробкі ўсё адно вырастуць — да $1007 у 2020 годзе.

Пра адмову ад «інфляцыйнай» мадэлі развіцця эканомікі размова не вядзецца. Таму дэвальвацый пазбегнуць не ўдасца.

ЯМ

## Сцісла

### Сярэдні заробак — $435

Паводле падлікаў Белстата, у мінулым месяцы беларускія работнікі мелі «брудными» 6 483 700 рублёў. Па тагачасным курсе гэта $435. За месяц заробак вырас на 350 тысяч рублёў.

Тым часам усходнія суседзі таксама пабагацелі. Сярэдні заробак у Расіі ў сакавіку вырас да $550. А вось у заходніх суседзяў, у Польшчы, у лютым заробак складаў $1085.

### Казахстан: ніякай адзінай валюты ў Еўразійскім саюзе

«Казахстан займае выразную і паслядоўную пазіцыю па выключэнні магчымасці ўвядзення адзінай і наднацыянальнай валюты ў рамках ЕАЭС», — заявіў віцэ-міністр Казахстана Цімур Жаксылыкаў. Па ігоных словах, ніякай гаворкі пра манетарныя і валютныя саюзы весціся не будзе.

### Традыцыйная зніжка для пенсіянераў

З 1 мая да 30 верасня Беларуская чыгунка дае пенсіянерам 50%-ую зніжку на праезд у прыгарадных электрычках. А вось пры праездзе ў бізнэс-электрычках (з нумараванымі месцамі) давядзецца плаціць поўную цану.

### «Ікея» пабудуе ў Магілёве склад для расейскіх крамаў

Літоўскія кампаніі VMG і SBA укладуць 95 мільёнаў еўра ў будаўніцтва лагістычнага цэнтра. Склад будзе абслугоўваць мэблевыя крамы «Ікея» ў Расіі. Шведская карпарацыя «Ікея» па-ранейшаму не можа дамовіцца з беларускімі ўладамі пра адкрыццё крамаў на тэрыторыі нашай краіны.

ЯМ

# «Муж папярэджваў пра імавернасць катастрофы яшчэ ў 1975-м»

**Як беларускі ядзершчык з групы Сахарава прадказаў Чарнобыльскую трагедыю.**

У нядзелю, 26 красавіка, мінула 29 гадоў з аварыі на ЧАЭС. Мала хто ведае, што за дзесяць гадоў да катастрофы яе прадказаў беларус — фізік-ядзершчык Мікалай Шут, паплечнік Сахарава. Ён працаваў у сакрэтным горадзе «Арзамас-16» над прататыпам будучага рэактара.

На жаль, сам Мікалай ужо не жыве. Але «Наша Ніва» адшукала яго жонку Вольгу Шут, якая праз усё прайшла поруч з мужам і захавала некаторыя ягоныя запісы.

Яна жыве ў Баранавічах і ў свае 73 усё яшчэ працуе ў школе. Адшукаўшы гадзіну на размову з журналістам, Вольга пачынае аповед аб мужу.

«Ён нарадзіўся пры канцы вайны на Гродзеншчыне, у Юравічах, але ў старэйшых класах разам з сям'ёю перабраўся ў Баранавічы і ўжо тут скончыў школу.

Вельмі лёгка яму давалася фізіка. Праўда, часы тады былі цяжкія, і Мікола яшчэ падлеткам пайшоў працаваць на будоўлю, а потым раптам вырашыў паступаць ажно ў Маскву — у МДУ імя Ламаносава. У бацькоў сродкаў не было яго на іспыты адправіць. І тады ён, ані слова маці не сказаўшы, пазычыў у кагосьці грошай ды паехаў у сталіцу за месяц да экзамену — рыхтаваўся, на курсы хадзіў. Такі быў упэўнены...І ўсё ўдалося — яго залічылі на фізічны факультэт. І мяне разам з ім, але я паступала на гістфак. У Маскве мы на другім курсе ў 1964 годзе шлюбам і пабраліся».

### Ледзь не паслалі на дно Карыбскага мора

«Мікола абараніў дыплом па тэме «Мікратрон» — гэтую працу нават прызналі найлепшай ва ўніверсітэце», — кажа спадарыня Вольга. Яна згадвае, што пасля вучобы маладая пара магла развітацца, бо набірала абароты халодная вайна, і Мікалаю, як фізіку, «свяціла» правесці тры гады дзесьці на дне Карыбскага мора. Але абышлося — універсітэцкі таварыш меў сваякоў у Палітбюро і прапанаваў Мікалаю пасаду ў навукова-даследчым інстытуце ў засакрэчаным горадзе «Арзамас-16» [сёння — Сароў — **Рэд.**] у Расіі.

«Мы прыехалі туды ў 68-м, — успамінае спадарыня Вольга. — А правялі там у выніку 9 год. Міколу ўвогуле цяжка было Беларусь жа падчас вайны была пад акупацыяй, нам не было веры, і яму давялося праходзіць шмат тэстаў для працы на сакрэтным аб'екце. Сам «Арзамас-16» знаходзіўся ў Мардоўскім запаведніку.

Усё было вельмі засакрэчана — нашыя вагоны нават адчаплялі за калючым дротам. Месца нам спачатку не вельмі падабалася — клімат кепскі. І спякотна, і пацееш увесь час, у роце сушыць — духоцце. Але потым неяк прызвычаіліся. Мяне адразу ў школу прызначылі працаваць, а Мікола стаў інжынерам-канструктарам у разліковай групе Сахарава [Андрэй Сахараў — стваральнік савецкай тэрмаядзернай бомбы — **Рэд.**]. Яму ж забаронена было казаць, над чым яны там працуюць, але штосьці ён усё ж гаварыў па-сямейнаму. Я ведала, напрыклад, што ягоная група распрацоўвае начынне ядзернай бомбы.

Мікола раніцай сыходзіў на працу і толькі ўвечары вяртаўся — іх кудысьці вазілі, углыб запаведніка», — кажа Вольга.



Спадарыня Вольга праз усё прайшла разам з мужам.

### Не зняла станік — і зарабіла анкалогію

Па словах жонкі фізіка, правілы працы на «Арзамасе-16» былі вельмі строгія. Кожны дзень, са словаў мужа, навукоўцы перад працай пакідалі свае рэчы ў асабістай шафцы і ішлі ў душ. Пасля ім выдавалі ўсё новае, белае, у чым яны рабілі да абеду. Ідучы ў сталоўку на абед, гэтую белую адзежу скідалі — і адразу ў топку. Адзявалі новую. Потым — душ і тэст на адмысловай раме: калі «пішчыш», то яшчэ раз у душ. Увечары такая ж працэдура, і так кожны дзень.

Парушэнне правілаў сканчалася сумна. «Быў выпадак, — прыгадвае спадарыня Вольга, — калі адна жанчына, нашая суседка, не зняла свой станік — ці то забылася, ці то пашкадавала. Так і карысталася ім. А потым ёй грудзі аперыравалі — анкалогія».

Таксама будаўнікоў шмат было, персаналу рознага. Дык вось адзін мужык на адходніках убачыў прыгожыя нікеляваныя трубкі. Не ведаю, чым ён думаў, але ўзяў іх сабе і зрабіў калыску для дачкі. Далей расказваць не буду — жудасна ўсё скончылася», — сумна ўзгадвае Вольга Шут.

### Прыйшоў жоўты-жоўты і паваліўся на падлогу

Праз нейкі час навукоўцаў пераключылі з распрацоўкі зброі на працу над «мірным атамам». Мікалая Шута тады павысілі да старшага навуковага супрацоўніка і групе далі новую задачу па выпрабаванні кантраляваных рэактараў.

«Падчас аднаго з экперыментаў над мінірэактарам тыпу ВМ, які спраектаваў яшчэ Курчатаў — ён потым стане прататыпам Чарнобыльскага МВР-1, — адбыўся выбух. Я памятаю той дзень: Мікола прыйшоў з працы вельмі позна. І ўвесь жоўтыжоўты. Я перапалохалася, спрабавала дапытвацца. Але ён моўчкі ўпаў на падлогу і ляжаў, не ўстаючы. З носа ў яго моцна палілася кроў. Я адразу паспрабавала спыніць, але ніяк — давялося выклікаць медыкаў, але і яны не далі рады. Павезлі яго ў шпіталь і там прыпальвалі сасуды ў носе — толькі так крывацёк спыніўся», — успамінае Вольга і дадае, што пасля таго выпадку Мікола змяніў сваё стаўленне да «мірнага атаму».

### Мужа адусюль «пасылалі»

«Муж папярэджваў аб імавернай катастрофе яшчэ ў 1975-м і пісаў лісты свайму кіраўніцтву, у ЦК Брэжневу, нават Андропаву ў КДБ. Ён сцвярджаў: трэба на час адмовіцца ад атамнай энергіі. Відаць, Мікола ведаў, што рэактар, які выбухнуў у іх, плануюць запусціць на вялікай АЭС, і засцерагаў ад гэтага. Ён казаў: пакуль не трэба ніякіх мірных атамный станцый. Гэта небяспечна, гэта не даследавана, навукоўцы шмат чаго яшчэ не ведаюць, шмат чаго не вывучана да канца. Але яго адусюль «пасылалі», ніхто яму не верыў.

А потым ад працы адхілілі Сахарава. Міколу таксама прапаноўвалі змоўкнуць у абмен на дазвол абараніць доктарскую, мінуючы кандыдацкую. Але ён працягваў пісаць працы аб небяспецы атамных станцый. Тады яго пачалі палохаць звальненнем і «Электрасталлю» — гэта накшталт нашых сённяшніх Навінак. Казалі, што ты, маўляў, розум страціў. Не дазволілі абараніць нават кандыдацкую, а ягоныя даследаванні выдаў за свае хтосьці з кіраўніцтва. У дадатак да ўсяго Мікола моцна захварэў — з'явіліся пухліны на патыліцы. Ён параіўся з калегамі і палічыў за лепшае пакінуць працу і вярнуцца дадому. Гэта было ў 1977 годзе», — кажа Вольга Шут.




Мікалай Шут. Жыццё ў чатырох фота.



Такімі яны былі ў час «Арзамаса-16».

### Машэраў намякнуў, што фізік многа на сябе бярэ

Пасля прыезду ў Баранавічы сям'і давялося цяжка: Вольга была цяжарная другім дзіцём, а Валодзю, інваліда з дзяцінства, ужо трэба было весці ў першы клас.

«Мікола не мог адшукаць сабе працу. Ён быў нібыта дысідэнт. А ў мяне ад іншага галава пухла: пакуль ён мыкаўся па розных канторах, я тапіла хату дрывамі, набірала ў студні ваду, карміла грудзьмі дачку, ляцела забіраць сына са школы. Ніякай дапамогі не было. Дэкрэтны адпачынак тады быў толькі два месяцы. Урэшце Мікола ўладкаваўся ў Баранавіцкі вылічальны цэнтр. Потым муж сустракаўся з Машэравым — вялікія надзеі ў яго былі на гэтую сустрэчу. Але той даў Міколу зразумець, што нейкі фізік надта шмат на сябе бярэ... Пасля развалу СССР вылічальны цэнтр у Баранавічах зачынілі, і Мікола пайшоў працаваць у школу — настаўнікам працоўнага навучання. Там і рабіў да самай смерці», — сумна кажа Вольга Шут.

Апошнія гады жыцця выбітны навуковец пражыў «невыязным» у бацькоўскай хаце, сляпым на адно вока і з пухлінамі на галаве — адна ўжо падбіралася да мазжачка, а другая, у горле, не давала есці нават пюрэ. Сканаў ён у 2007, яму было 63 гады, пахаваны на могілках у Дубаве. У Мікалая Шута засталося двое дзяцей — старэйшы Валодзя ад нараджэння пакутуе на рэдкую хваробу хранічнага звужэння сасудаў і з юнацтва не можа хадзіць. Яго даглядае таксама хворая сястра. Сама Вольга Шут перанесла анкалогію шчытавіцы і цяпер дажывае свой век у Баранавічах, зарабляючы грошы, каб выцягнуць сям'ю. Яна 42 гады адпрацавала настаўніцай.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Дзе ў Беларусі больш за ўсё абортаў?




Колькасць абортаў у Беларусі працягвае павольна змяншацца. Паводле дадзеных Белстата, у 2013 годзе на 100 родаў прыходзілася 26,6 аборта, а летась — 25,3 аборта.

Традыцыйна для Беларусі доля перарваных цяжарнасцяў істотна адрозніваецца ў розных рэгіёнах.

Брэсцкая і Мінская вобласці маюць меншы паказчык (15—16 абортаў на 100 родаў), далей ідзе Гродзеншчына (21,8 аборта). Магілёўшчына і Мінск знаходзяцца прыкладна на адным узроўні (26—27 абортаў). Сітуацыя на Віцебшчыне і Гомельшчыне істотна горшая (каля 36 абортаў).

**ЯМ**

# Беларус за паўтара года аб'едзе паўсвету на ровары

На тры дзясяткі тысяч кіламетраў дарогі Аляксей Ландэрс збіраецца патраціць **паўтара года і 2500 даляраў**.



У 2013 годзе мінскі вандроўнік і актывіст веларуху Аляксей Ландэрс за 100 дзён праехаў 11 краін Еўропы. У 2015-м ён выправіўся ў значна больш маштабную вандроўку.

Аляксей хоча праехаць праз Украіну, Румынію, Балгарыю, Турцыю, збочыць у Арменію, Грузію, Азербайджан, затым у Іран, Пакістан, Індыю, Непал і Кітай.

У падарожжы ён збіраецца знаёміць жыхароў іншых краін з Беларуссю, распавядаць пра сваю краіну.

Па словах вандроўніка, родныя, якія не пабачаць яго паўтара года, безумоўна, хвалююцца. Але знаёмыя падтрымліваюць смелую ідэю Аляксея. Падтрымку ён мае і ад спонсараў, і нават ад беларускіх чыноўнікаў.

Едзе Аляксей на ровары вытворчасці мінскага «Мотавела» — не звычайным, а выпушчаным у адзіным экзэмпляры, сабраным спецыяльна для яго з замежных дэталяў.

У вандроўку Аляксей бярэ 2,5 тысячы даляраў. «Мне спакайней, калі ёсць грошы на ежу. І калі падарожнічаеш на ровары, неабходна папаўняць калорыі: калі не есці, не піць дастаткова, можна нашкодзіць здароўю».

З сабой вандроўнік бярэ адзенне ў герметычных мяшках, красоўкі і кантактны велаабутак, сродкі гігіены і адмысловыя рушнікі, што хутка сохнуць, турыстычны матрац і партатыўную плітку, запчасткі для ровара, а таксама тэлефон, ноўтбук і камеру GoPro.

Уражаннямі ад вандроўкі Аляксей абяцае дзяліцца ў сацсетках і на ўласным сайце.

Атрымаць візы для такога падарожжа няцяжка, сцвярджае Аляксей. Але пасольстваў многіх краін у Мінску проста няма, таму частку віз ён збіраецца атрымаць ужо ў дарозе.

**Аляксандр Арсёнаў, фота з архіва Аляксея Ландэрса**

# Коля Лукашэнка атрымаў дыплом на конкурсе «Я — даследчык»



Малодшы сын кіраўніка Беларусі Мікалай Лукашэнка ўзяў удзел у конкурсе даследчыкаў. Ягоная праца называлася «Уплыў камп'ютара на зрок».

«Юны даследчык вывучыў прычыны, чаму пагаршаецца зрок, і прапанаваў гімнастыку для захавання зроку. Апісаў тыя практыкаванні, якія яму дапамагаюць, і нават пракансультаваўся ў медыкаў», — расказала «Камсамольскай праўдзе» рэктар Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі Святлана Сітнікава.

Цікава, што старэйшы сын Ірыны Абельскай, Дзмітрый, працуе доктарам-афтальмолагам аддзялення лазернай хірургіі ў Рэспубліканскім афтальмалагічным цэнтры.

**Фотафакт**




**У кіёсках прадаюць шарыкі з беларускім арнаментам, выраблeныя ў Італіі**

У кіёсках «Віцебскаблсаюздруку» прадаюцца паветраныя шарыкі белага і чырвонага колеру з беларускім арнаментам і яго расшыфроўкай. Што цікава, зробленыя шарыкі ажно ў Італіі, а ў Беларусь імпартуюцца брэсцкай кампаніяй.

**Каханне і сэкс**

# Напісаць на яе грудзях — новы трэнд у інтэрнэце

Запосціць фота сяброўкі з тваім іменем на яе грудзях лічыцца дастаткова модным сярод падлеткаў. Там, дзе ёсць попыт, з'яўляецца і прапанова — цягам некалькіх гадоў за такую паслугу можна было заплаціць.

Прыватна так зараблялі многа дзяўчын, але спосабы аплаты былі не такімі зручнымі, ды і гарантыяў ніхто не даваў. Пакуль не з'явіўся сэрвіс Tittygram — прыклад таго, што любую распаўсюджаную практыку ў сацсетках можна манетызаваць.

Стваральнікі сайта максімальна спрасцілі працэс: вы пакідаеце пошту, пажаданы тэкст і аплочваеце паслугу (10$) — фота з дзявочымі грудзямі абяцаюць цягам гадзіны. У бізнэс-версіі вы можаце абраць і саму мадэль, абыдзецца гэта ў чатыры разы даражэй. Можна стаць і мадэллю — ад вас чакаюць сэлфі ў ніжняй бялізне, гарантуюць ананімнасць і прапануюць заробак у сто даляраў у дзень.

Пра сэрвіс ужо напісалі Playboy, Buzzfeed, The Moscow Time і паказалі некаторыя расійскія каналы. Па словах уладальнікаў, замоваў мноства. Скарысталася ціціграмкай нават расійскае аддзяленне Burger King.

**Іван Шыла**

# Чаму не варта было забараняць «Нумар 44»

Піша **Віктар Марціновіч**.



Можа падацца, што сітуацыя са зняццем з пракату фільма «Нумар 44» звычайная. Уключылі ж у спіс не прыдатных для паказу не толькі смешны «Борат», але і цалкам фантастычны «V значыць вендэта».Наша *«камісія па нраўственнасці»* разам з ідэолагамі нават «Кін дза дза» маглі б забараніць. Лёгка! Але «Нумар 44» — зусім іншае.

Рэч у тым, што рашэнне прымалася не ў Беларусі і не беларускімі дбаўцамі пра прыгажосць і гістарычную праўду. Беларускія ідэолагі фільм прапусцілі, ягоная прэм'ера была прызначана на 16 красавіка. І не адбылося яе з той дзіўнай прычыны, што фільм прызналі шкодным ў Расіі. Кінадыстрыб'ютар «Цэнтрал Партнершып» «сур'ёзна папярэдзіў» беларускі «Кінавідэапракат» пра тое, што «Нумар» паказвацца не мусіць. І беларусы ад гэтага папярэджання склалі лапкі і стужку знялі. Нават штрафныя санкцыі не выставілі, што для нашай краіны агулам нехарактэрна.

Такім чынам, маем выпадак карціны, якую беларускі глядач не ўбачыць па званку з Масквы. Пагодзімся, гэта зусім не тое ж самае, калі рашэнне прымаюць мясцовыя ўлады.

Што за фільм «Нумар 44»? Зыходзячы з трэйлера і сінопсіса — страшэнная дурата, дзе Савецкі Саюз паказаны прыкладна так, як некалі яго паказалі ў Read Heat (памылкова перакладзеным як «Чырвоная спёка») з Арнольдам Шварцэнэгерам. На трэкерах «Нумара» пакуль няма, таму давялося расшукаць раман Тома Роба Сміта «Дзіця 44», экранізацыяй якога з'яўляецца твор.

Вычарпальнае ўражанне пра мастацкія вартасці тэксту можна атрымаць з самага першага ягонага сказа: «Теперь, когда Марья решила умереть, ее коту придется заботиться о себе самому».

Я сціснуў зубы і прагартаў 800 старонак, прысвечаных камічнаму апісанню голаду ва Украіне, «загадкавым» знішчэнням дзяцей у 1950-я і г. д. На думку аўтара, калі чалавеку няма чаго есці, ён ляжыць на печы і глядзіць у столь; абгрызеныя косткі ўкраінскія жанчыны піхаюць у бутэлькі і змяшчаюць у лункі на рацэ, каб не дасталіся суседзям, — і ўзнікае, канечне ж, пытанне, як яны ныраюць па гэтыя бутэлькі, калі лёд растае, але гэта няправільнае пытанне: для аўтара на нашай тэрыторыі заўсёды зіма і лёд. Там ёсць яшчэ «страшныя» забойствы, «бледныя трупы», «грудзіна», якую эксперт-крыміналіст блытае з «брушынай», і іншыя наступствы таго, як кембрыджскі выпускнік, які ніколі не цярпеў галечы і ніколі як след сам не палохаўся, спрабуе выдумаць жудасны сюжэцік пра моцна збянтэжаных людзей.

«Такія фільмы не павінныя выходзіць у нашай краіне ў масавы пракат... ні ў 70-ю гадавіну Перамогі, ні калі яшчэ», — казаў расійскі міністр Мядзінскі пра «Нумар 44» яшчэ тады, калі думаў, што гэткія ягоныя выказванні знішчаць інтарэс да стужкі, а не наадварот. — Не краіна, а Мордар, з фізічна і маральна непаўнавартаснымі недачалавекамі... Вось у такой краіне адбываецца дзея фільма ад 30-х да 50-х гадоў XX стагоддзя. Так паказаная нашая краіна — тая самая, якая толькі што перамагла ў Вялікай вайне, вырвалася ў лік сусветных лідараў і вось-вось запусціць першага чалавека ў космас».

Калі пільна ўгледзецца ў гэтыя выразы, можна зразумець, чым так спалохала пасрэднае кіно па абы-якой кнізе рускага міністра і таго, хто гэтага міністра прызначыў.

Абраза СССР. Непрыгожыя людзі. Салдаты-марадзёры, дэбісты-дэбілы, забойствы, якія ніхто не расследуе, страх, галеча і галадамор.

Расіі робіцца няўтульна ад усяго гэтага. Нават калі яно пададзенае ў выглядзе каструбаватага дзіцячага комікса.

Але, шаноўны «Кінавідэапракат», чаму млосна ад гэтага павінна рабіцца нам? Давайце вызначымся: мы — нашчадкі СССР? Ці, можа, тыя, хто ад СССР пацярпеў? Так, як цярпела Украіна, балтыйскія рэспублікі і іншыя? Так, мы разам перамаглі фашызм, з гэтым ніхто не будзе спрачацца, але ці варта нам падзяляць крыўду і боль рускіх з нагоды абразы савецкага?

Я не лічу сабе савецкім чалавекам. Болей за тое, я не лічу сабе чалавекам постсавецкім. Я гляджу не ў мінулае, а ў будучыню, дзе нас чакае шанец зрабіцца краінай, ідэнтычнасць якой не ўтаропленая ва ўсе гэтыя мдбшна-нквдшныя вампірскія расклады. Для мяне савецкі дэбіст — адмоўны персанаж. Мне не крыўдна, калі Галівуд крыўдзіць яго.

Мне радасна ад таго, што 70 гадоў таму быў пераможаны Гітлер, але мне прыкра ад таго, што пасля гэтага працягваўся ГУЛАГ. З адмовы ехаць у Маскву 9 мая вынікае, што ўсё апісанае вышэй разумее нават найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі.

Дык ці не паспяшаліся «Кінавідэапракат» і органы кіравання культурай бараніць савецкае па першым званочку Мядзінскага?

**budzma.by**

# Валярына Кустава і Васіль Дранько-Майсюк пабраліся шлюбам



Гэта адбылося 17 красавіка. Драматург і педагог Васіль Дранько-Майсюк і паэтка Валярына Кустава вядомыя ў грамадскіх і культурных колах. Кустава працуе вядучай на тэлеканале «Белсат».

Васіль Дранько-Майсюк, сын паэта Леаніда Дранько-Майсюка, надоечы прэзентаваў спектакль «Пясняр», галоўны герой якога — Уладзімір Мулявін. Спектакль шырока паказваўся ў Расеі, быў паказаны і ў Беларусі.

Вяселле праходзіла ў вузкім коле сяброў, і публічна пра яго не паведамлялася. Таму выклікала шмат водгукаў і здзіўленняў. Сімвалічна ці не, але Валярына Кустава напярэдадні свайго вяселля неадназова лавіла вясельныя букеты.

Як піша сама Валярына на сваёй старонцы ў фэйсбуку: «26 лістапада, на дні нараджэння Караткевіча, адбылася наша першая спатканка, а ўжо сёння — мінуў афіцыйна тыдзень, як цётачка ў Ленінскім ЗАГСе ўрачыста і па-беларуску паведаміла, што мы — сям'я».

**Вольга Гарапучык**

## У Чэхіі беларускім хакеістам будзе цяжка

Ад 1 да 17 мая ў Празе і Остраве пройдзе 79-ы **чэмпіянат свету па хакеі**. Чэхія пераняла эстафету спаборніцтваў у Беларусі.



**Зайцы Боб (вялікі) і Бобэк (маленькі) — талісманы сёлетняга першынства.**

Год назад у Мінску беларусы паказалі вельмі прыстойны вынік, трапіўшы ў чвэрцьфінал. Маглі прайсці і далей, але шведы аказаліся больш спрактыкаванымі. Галоўнай прычынай такога поспеху беларусаў называецца натхненне ад гульні пры родных трыбунах, а таксама слабыя склады каманд супернiц, якія ў год Алімпіяды даслалі не самых моцных гульцоў.

Сёлета ў Чэхіі будзе цяжэй. Трывогу выклікаюць нават кантрольныя гульні, дзе беларусы цярпелі адну паразу за другой. А ў агульным заліку хакейнага «Еўравыклiку» занялі апошняе месца.

Адмовіліся прыехаць у склад зборнай і многія лідары каманды. Напрыклад, натуралізаваны канадзец Джэф Плат спаслаўся на вяселле. А нядаўнія фіналісты Кубка Гагарына ў складзе казанскага «Ак Барса» Канстанцін Кальцоў і Уладзімір Дзянісаў увогуле не растлумачылі сваю адсутнасць. Без такіх прызнаных майстроў нашым будзе цяжка. Некаторыя эксперты схіляюцца да меркавання, што галоўнай задачай беларусаў будзе не вылецець у ніжэйшы дывізіён.

Наша зборная будзе гуляць у Остраве, на самым усходзе Чэхіі. Сустрэчы будзе прымаць 10-тысячная «ČEZ-Арэна».

**ЗП**

**Расклад матчаў зборнай Беларусі:**

2 мая: Беларусь — Славенія (пачатак у 17:15)

3 мая: Беларусь — Славакія (17:15)

5 мая: Данія — Беларусь (17:15)

7 мая: ЗША — Беларусь (17:15)

9 мая: Беларусь — Расія (13:15)

11 мая: Фінляндыя — Беларусь (17:15)

12 мая: Нарвегія — Беларусь (13:15)

## Хутар Шаблі адмовіўся ад фэстаў да наступнага года

Гэтым летам на хутары Шаблі не пройдуць бітлоўскі фэст, «Вольнае паветра» ці «Дружба» — хутар будзе нават закрыты для арэнды.

«З хутарам усё добра, — кажа гаспадар падворка Уладзімір Шаблінскі. — Прычына закрыцця — будоўля дома. Надышоў час гэтым спакойна заняцца. Канфліктаў з пабочнымі арганізацыямі ніякіх».

Па словах Шаблінскага, яго канцэртнае агенцтва мае планы на летнія фэсты, не звязаныя з хутарам, у іх ліку — Міжнародны фестываль феерверкаў «Навальніца».

Хутар Шаблі ў Валожынскім раёне часта выступаў у якасці канцэртнай пляцоўкі і месца правядзення музычных фэстаў, быў адзначаны мясцовым выканкамам за развіццё турызму. У 2013 годзе значна пацярпеў ад пажару. Новы дом будзе збудаваны на месцы згарэлага.

**Аляксандр Арсёнаў**



**Будоўля на хутары «Шаблі».**

## Ад 1 мая «Укантакце» знікне пірацкая музыка

Ці яна **стане ліцэнзійнай**, ці «Укантакце» не стане ніякай музыкі.





Расійскі антыпірацкі закон ад 1 мая пашырыцца не толькі на фільмы, але і на музыку, кнігі і праграмнае забеспячэнне. Каб пазбегнуць блакіровікі, музычны раздзел сацсеткі «Укантакце» могуць закрыць да заключэння дамоваў.

Пакуль «Раскамнадзор» прэсіў не высоўваць прэтэнзій «Укантакце» адразу 1 мая. «Паглядзім, як кампанія будзе працаваць пасля 1 мая», — сказаў РБК гендырэктар расійскай Асацыяцыі па абароне аўтарскіх правоў у інтэрнэце Алег Калеснікаў. Мабыць, вялікім кампаніям трэба больш часу, каб адаптавацца да законаў.

Са жніўня 2013 года ў Расіі быў прыняты закон, што дазваляў блакаваць сайты за нелегальны відэакантэнт — фільмы, серыялы і тэлеперадачы. З пірацкім відэа «Укантакце» больш-менш разабралася: сёння многія пірацкія відэа, загружаныя карыстальнікамі сацсеткі, закрытыя для прагляду.

А што будзе з музыкай? З некаторымі праваўладальнікамі, магчыма, дамовіліся, але многія дагэтуль абвінавачваюць «Укантакце» ў піратстве. Сацсетка, напрыклад, унесеная ў «спіс 301» Гандлёвага прадстаўніцтва ЗША як адзін з найбуйнейшых парушальнікаў аўтарскага права.

Менавіта праз парушэнні аўтарскага права ў раздзеле аўдыё праграма «Укантакце» для iPhone была выдаленая з AppStore у лютым 2014 года і вярнулася толькі ў ліпені — ужо без раздзела аўдыё.

**Аляксандр Арсёнаў**

Кіно

## Найстрашнейшая пагроза

Мсціўцы: Эра Альтрона
**Жанр:** фантастыка, баявік, прыгоды
**Рэжысёр:** Джос Уідан
**У ролях:** Роберт Даўні-малодшы, Крыс Хемсварт, Крыс Эванс, Скарлет Ёхансан, Марк Руфала, Джэрэмі Рэнер, Аараn Тэйлар-Джонсан, Элізабет Олсен, Джэймс Спейдэр, Сэмюэл Л. Джэксан
ЗША, 141 хв.
**Адзнака:** 8

Каманда Мсціўцаў — незалежная арганізацыя, якая абараняе чалавецтва, — падчас палявання на зламысніікаў з «Гідры» знаходзіць штучны інтэлект, замураваны ў камень. Каб «ажывіць» яго і скарыстаць у праекце «Альтрон», створаным для абароны Зямлі ад любых пагроз, вынаходнік Тоні Старк і навуковец Бэнер (Халк) з дапамогай робата Джарвіса запускаюць эксперымент. Так нараджаецца Альтрон — магутны штучны інтэлект. Нечакана ён вырашае, што галоўнай пагрозай для Зямлі з'яўляецца само чалавецтва. Толькі аб'яднаўшыся і падключыўшы ўсе магчымыя сілы, Мсціўцы змогуць распачаць бітву з Альтронам, каб выратаваць людзей ад знішчэння.

Адзінаццаты фільм кінематаграфічнага сусвету Marvel заснаваны на аднайменных коміксах і з'яўляецца сіквелам «Мсціўцаў» (2012). Да ўжо вядомай каманды (Жалезны чалавек (сапраўднае імя — Тоні Старк), Капітан Амерыка (Стыў Роджарс), Халк (Брус Бэнер), Сакалінае вока (Клінт Бартан), Чорная ўдава (Наташа Раманаф)) на чале з Нікам Ф'юры далучаюцца мутанты П'етра (Ртуць) і Ванда (Чырвоная вядзьмарка) Максімаф. Іх ролі выканалі Элізабет Олсен і Аарон Тэйлар-Джонсан, якія для падрыхтоўкі прачыталі ўсе нумары комікса «Marvel Ultimates», дзе фігуравалі іх персанажы. Сюжэт стужкі адыходзіць ад падзей, прапанаваных у коміксе «Эра Альтрона» 2013-га года: там Альтрон быў створаннем доктара Піма (Чалавек-мурашка). У фільме ён створаны вынаходнікам Тоні Старкам.

Ролю галоўнага злодзея Альтрона выканаў Джэймс Спейдэр, які быў абраны з-за яго «гіпнатычнага голасу, які можа быць страшна спакойным і пераканаўчым і ў той жа час простым і смешным», па вызначэнні рэжысёра Джоса Уідана.

Здымкі фільма адбываліся ў Паўднёвай Афрыцы, Вялікабрытаніі, Італіі і Паўднёвай Карэі. На здымках эпізодаў у Сеуле былі скарыстаныя ўнікальныя дроны і машыны на дыстанцыйным кіраванні, якія дазволілі здымаць сцэны з неверагодных ракурсаў, не даступных ні аператарам, ні верталётам. Прадзюсары запрасілі карэйскіх спецыялістаў па пілатаванні дронаў і дыстанцыйных аўтагонках Пака Мін Ке і Ментру Па.





Захапляльны сюжэт, відовішчнасць і гумар заўжды адрознівалі фільмы студыі Marvel, і новыя «Мсціўцы» не выключэнне. Стужка спадабаецца аматарам экшну і фантастыкі.

**Настасся Уласава**

# Старым дрэвам не месца на могілках

Добры дзень, Валера Гапееў!

З цікавасцю і надзеяй пачаў чытаць Ваш допіс у «Нашай Ніве» за 25 сакавіка. З цікавасцю, бо, па-першае, Ваша прозвішча мне знаёмае, хаця, на жаль, памяць не ўтрымала, каму яно належала, аднак некалі ведаў аднаго чалавека з такім прозвішчам. Па-другое, Івацэвічы — мая малая радзіма.

Я нарадзіўся і вырас у вёсцы Кушняры ў 1938 годзе, дзе і закончыў пачатковую школу, а 5 і 6 класы — у Падстарыні, сямігодку — у новапабудаванай Сенькавіцкай сямігодцы.



Незразумела толькі, чаму так яе назвалі, бо яна бліжэйшая (на ўскрайку) да вёскі Кушняры, чым Сенькавічы. Цяпер, праўда, тыя вёскі злучыліся, а школу тую зачынілі праз недахоп вучняў. А сярэднюю школу ў 1955 годзе я заканчваў у Івацэвічах, на жаль, ужо рускамоўную. Праўда, ніхто з нас у той час ніякай трагедыі ў тым не бачыў, хутчэй нават наадварот: як-ніяк мы рабіліся «гарадскімі».

Гэта ўступ. Цяпер пра Ваш допіс. Адразу адзначу, што я крыху расчараваўся, што Вы не івацэвіцкі, а рагачоўскі: Вы — усходнік, а я — заходнік, а гэта нешта ды значыць. Вось толькі адзін прыклад. Пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ ў 1968 годзе я быў накіраваны ў Горкі Магілёўскай вобласці. І якое ж было маё здзіўленне, калі ў рэдакцыю раёнкі прыйшоў ліст, што ў нейкай вёсцы разваліўся адзіны калодзеж, і людзі павінны хадзіць па ваду ў рэчку, а сельсавет не рамантуе таго калодзежа. Паўтаруся: для мяне гэта было не толькі дзіўна, але і дзіка, бо ў маёй роднай вёсцы калодзежы былі амаль на кожным сялянскім падворку, зрэдку на ўскрайку вуліцы на 2—3 двары, прычым людзі самі іх капалі, а тут — адзін на вёску.

Не ведаю, праўда, дзе малая радзіма Вашых бацькоў, як даўно Вы жыхар Івацэвічаў. Дык вось, з загалоўка ніяк нельга зразумець, пра што допіс. Першая ўзнятая тэма — крыўда і боль пра лёс беларускай мовы, беларускасці наогул у краіне пад назвай Беларусь. Гэта было б смешна, калі б не было так дзіка: паспрабуйце ўявіць Францыю без французскай мовы, Польшчу — без польскай. Цалкам падзяляю Вашу трывогу і боль, спадар Валер Гапееў.

А вось наконт другой тэмы, узнятай у Вашым допісе, яна і вынесеная ў загаловак, я ка-тэ-га-рыч-на з Вамі не згодны. І вельмі здзіўляе, што могліцы з дрэвамі Вы называеце Раем, а без дрэў — Пусткай.

Можна ганарыцца дубам, якім упрыгожаны допіс, але калі б ён не рос на могліцах. Але ж спусціцеся на зямлю і ўявіце: колькі надмагільных помнікаў ён раструшчыць, знішчыўшы памяць пра тых, хто там пахаваны. Некаторыя, вядома, будуць адноўлены, на што пойдуць немалыя грошы, грошы, з якіх Вы няўдала і не да месца іранізуеце, бо без іх (а іх у большасці катастрафічна не хапае). А многія, упэўнены, і не будуць адноўлены альбо з-за недахопу тых жа грошай, альбо з-за таго, што і нашчадкаў ці проста родзічаў не засталося. Значыць, і памяць пра многіх рана ці позна раструшчыць пад сабой той дубасілак, які аджывае сваё. І я цалкам падтрымліваю думку, што высакарослым дрэвам не месца на могліцах.

Ну, а каб на могліцах вецер не гуляў, дык садзіце там кусты бэзу ці яшчэ што...

...Нядаўна быў на могліцах у маёй роднай вёсцы, дзе пахаваны мае продкі, многія родзічы і проста знаёмыя вяскоўцы. І там растуць велізарныя дрэвы, некаторыя ўжо сухія. І з трывогай думаў, чаму нікому няма справы, каб прыбраць тыя дрэвы. І нават уцяміць не мог, што знойдзецца адукаваны чалавек, які будзе так шчыра абараняць тыя дрэвы, параўноўваючы нават з раем...

Высакаросылым дрэвам месца ў лесе ці ў парку, але ніяк не на могліцах.

**З павагай, Вячаслаў Дашкевіч, Старыя Дарогі**

## Майго дзеда таксама расстралялі

Добры дзень, спн. Ганна Севярынец! Уразіла Вашае апавяданне ў «Нашай Ніве» ад 15 красавіка. Я адчуваю тое ж самае!

Мой дзед з тых хлопцаў. Яго не расстралялі ў ноч 29 кастрычніка, але выслалі на Калыму разам з Грахоўскім, Астапенкам, Дарожным, Хадыкам, Звонакам ды іншымі. На жаль, ён не вярнуўся. Збег адтуль і знік назаўсёды.

Я часта бываю на тых вуліцах у цэнтры, дзе і цяпер стаіць Пединститут, каля месца былога Дома пісьменніка, насупраць КДБ. Я адчуваю боль і жаданне ўбачыць іх усіх хоць на хвіліну. І я добра ведаю, што яны не паелі...

Дзякуй, Ганна!

**З павагай, Таццяна Навасельская (Клопава), унучка пісьменніка Сяргея Знаёмага (Клопава)**

## Не пі вадзічкі, бо станеш немаведама кім

Не больш за месяц адпрацаваў гэты фільтр грубай ачысткі вады ў адной з кватэр дома №29 па вуліцы Партызанскай, што ў гарадскім пасёлку Свіслач Пухавіцкага раёна (Мінская вобласць). Цяпер яго пакрывае тоўсты слой цёмнага тлустага смярдзючага рэчыва, якое ўтрымлівалася (увага!) у пітной вадзе.

Гэтай праблеме не адзін год, і яна існуе ў аднабаковых адносінах. Філіял «Дружны» УП «Жылцепласервіс» Пухавіцкага раёна пастаўляе ў кватэры жыхароў пасёлка сумнеўную вадкасць, але бярэ за яе плату як за якасную ваду. Звароты грамадзян справы не вырашаюць. Як кажуць, «адпаведнасць санітарным нормам і дзяржаўнаму стандарту СТБ-1188-99». Вада пітная? — Не, не чулі...

**Сяргей Зінін**



## Памяці айца Аляксандра Надсана

Сярод магільных помнікаў-крыжоў,
Дзе кожны з нас куток набудзе свой,
Руплівец і святар спачын знайшоў,
У вечнасць адышоўшы на спакой.

Шторанку у царкву ён паспяшаў,
Каб дзень з падзякі Госпаду пачаць,
І ціха набажэнства рыхтаваў,
Дзе абразы і свечкі дзе гараць.

Святыя кнігі даставаў святар,
Пасля хвіліну нейкую маўчаў...
І велічна, як з гуслямі гусляр,
Ён годна «Ойча наш» распачынаў.

І ў кожным спеве Божае хвалы
Ён чуў Сафіі Полацкай званы.

**Сяржук Вінаградаў, Лондан**

## «Я не перадавала У.Крукоўскаму права на выкарыстанне гэтага твора»

Апошнім часам у інфармацыйнай прасторы з'явілася паведамленне, што «Уладзімір Крукоўскі разам са сваімі калегамі рыхтуе адмысловы альбом «1000 і 1 Пагоня».

Даводжу да ведама ўсіх зацікаўленых асобаў, што складальнікам альбома «1000 і 1 Пагоня» з'яўляецца мой муж Міхась Чарняўскі.

Заяўляю, што я, як спадкаемца яго інтэлектуальнай уласнасці, не перадавала У.Крукоўскаму ні ў вусным, ні ў пісьмовым выглядзе права на выкарыстанне гэтага твора і не даручала яму рыхтаваць памянёны альбом да выдання.

Папярэджваю пра недапушчальнасць выкарыстання без майго дазволу альбома «1000 і 1 Пагоня».

**Святлана Чарняўская, Мінск**

У нумары за 15 красавіка выйшла інтэрв'ю са мной: «Заснавальнік партал litkritika.by: Я б і краіну перайменаваў, бо слова «Русь» сябе дыскрэдытавала». Прыемна. Карэспандэнт Улад Швядовіч досыць правільна перадаў сутнасць фрагментаў працяглай гутаркі. Аднак рэдактарская ўстаўка псуе ўражанне ад інтэрв'ю: «Аляксандр Новікаў ... ваяваў з «нацыяналістамі», вінаваціў у графаманстве нават Бураўкіна з Барадуліным».

Запэўніваю вас, што ні першага, ні другога я не рабіў і гэтая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці. «Выказваць сваё меркаванне» і «ваяваць» — гэта рознае.

**З павагай, Аляксандр Новікаў, кіраўнік літаратурнага партала «ЛітКрытыка.бай».**



### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

# Не адракаймася спадчыны Вялікага Княства Літоўскага!

Гутарка з Алесем Краўцэвічам «Ліцвінства — выдумка ворагаў» («НН» за 18 сакавіка) падштурхнула мяне напісаць аб некаторых пытаннях, звязаных з гісторыяй Вялікага Княства. Нашы спрэчкі з летувісамі за спадчыну Вялікага Княства маюць свае паралелі. Прыкладам могуць быць рознагалоссі грузінаў і абхазаў вакол Абхазскага царства. Гэтая дзяржава існавала з VIII па XII стагоддзе. Нашчадкам абхазскіх цароў была легендарная царыца Тамара, пры якой грузінская дзяржаўнасць і культура дасягнулі найвышэйшага росквіту. Дастаткова згадаць Руставелі. Зразумела, грузіны і абхазы робяць з гэтага факта супрацьлеглыя высновы. Грузіны сцвярджаюць, што Абхазія заўжды была часткай Грузіі і ўвогуле старажытныя абхазы — грузінскае племя, а продкі сучасных «апсуа» — саманазва абхазаў — прыйшлі толькі ў Новы час. Праблема ўскладняецца яшчэ і тым, што ў візантыйскіх і славянскіх сярэднявечных крыніцах грузіны называюцца абхазамі.

Можна правесці і спрэчкі балгар і македонцаў аб імперыі цара Самуіла. Бацька Самуіла Нікола быў комітам — намеснікам балгарскага цара Пятра (927—97) у цяперашняй сталіцы Балгарыі Сафіі (тады Срэдэц) і быў родзічам праўячай дынастыі Крумаў. Маці яго, як лічыцца, была армянкай. Яго асоба і дзяржава з'яўляюцца прадметам гарачых спрэчак у македонскай і балгарскай гістарыяграфіі. Македонцы настойліва сцвярджаюць, што дзяржава Самуіла, нягледзячы на яе сувязі з Першым Балгарскім царствам, была па сутнасці новай Македонскай імперыяй. Балгары не хочуць адмаўляцца ад цара Самуіла, якога лічаць сваім нацыянальным героем. Яго імем названы вёскі, стадыёны і нават так званы «нос» цара Самуіла на востраве Лівінгстана ў Антарктыцы. Там у свой час працавала балгарская экспедыцыя і дала назвы ў гонар сваіх герояў і класікаў. Вось у каго нам бы павучыцца патрыятызму!

Што нам даюць прыведзеныя паралелі? Трэба сказаць, што мы ў лепшым становішчы,чым македонцы ці абхазы. Афіцыйнай мовай Абхазскага царства была грузінская, а сталіцай — Кутаісі, горад у Заходняй Грузіі. Прэтэнзіі сучасных македонцаў на спадчыну Аляксандра Вялікага яшчэ больш спрэчныя. Мы ж можам смела сцвярджаць, што наш народ існаваў яшчэ да Літвы, што дзяржаўнай у ВКЛ была менавіта наша мова і, з пэўнымі падставамі, што першай яго сталіцай быў наш старажытны Навагрудак. Таму не варта адмаўляцца ад ліцвінскай спадчыны!

**Вацлаў Шаблінскі, Мінск**

# У 41 год нечакана памёр паэт Ярыла Пшанічны

Ён адправіўся **наведаць магілы продкаў** і сам застаўся побач з імі.

У музычных колах яго ведалі як Вову Банкера, у паэтычных — як Ярылу Пшанічнага. Быў графікам, перформерам. Удзельнічаў у анархісцкім руху.

Ён адправіўся на выхадных перад Радаўніцай у пасёлак Нарач наведаць магілы бабулі і дзядулі. Там 19 красавіка раптоўна і памёр. Мяркуецца, што прычынай смерці стаў адрыў тромба.

«Не ўкладваецца ў галаве, што Вовы Банько больш няма. У Вовы было шмат ідэяў, звязаных з музыкай, літаратурай, графікай і перформансам. Думаў пра новую кнігу, расказваў пра сваю працу, звязаную са спадарожнікамі, хваліў сваю дачку, якая займаецца жывапісам, і хацеў, каб яна занялася камп'ютарным дызайнам. Я вельмі ўдзячны лёсу, што мне сустрэўся ў жыцці такі светлы чалавек», — прыгадвае сябра пісьменнік Зміцер Вішнёў.

Уладзімір Банько граў у складзе музычных праектаў Karaoke Vomit, Roomdark, «Барадаты Грынвіч», «Князь Мышкін».

**Можна папярэдзіць**

Тромб — гэта згустак крыві, які можа закупорыць сасуд, парушыўшы працэс крывацёку. Тромб можа дайсці да сасудаў сэрца альбо мозга, што становіцца прычынай інфаркту альбо інсульту. Альбо нават прыводзіць да смерці.

Рызыка ўтварэння тромба ў сасудах рэзка павышаецца ў тых, каму за 65 гадоў, хто мае праблемы з лішняй вагой, хто паліць і мала рухаецца. Часта тромбы ўтвараюцца пасля фізічнай нагрузкі, траўмы нагі ці рукі альбо аперацый.

Каб пазбегнуць цяжкіх наступстваў, трэба больш спажываць садавіны, гародніны, зеляніны, ягад; прадукты з каліем (брокалі, шпінат, брусніцы, цытрусавыя) і кальцыем (малочныя прадукты). Трэба весці актыўны лад жыцця: заняткі спортам, штодзённыя прагулкі па некалькі кіламетраў.

Пры лячэнні тромбы могуць рассмоктвацца. Не трэба ўсё пакідаць на самацёк.

Ад тромба, між іншым, летась памерлі Дзмітрый Баранаў, прадзюсар спявачкі Алены Ланской, музыка Зміцер Сідаровіч.


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

«Упершыню я ўбачыў яго ў 2008-м, тады ўжо ў тусоўцы гурту «Князь Мышкін», калі ён чытаў свае вершы «Пра прэзідэнта і гнілую бульбу». Я заўжды ўспрымаў яго як надта дарослага, саліднага дзядзьку з такім пралетарскім прыжмурам у позіраку. І з самабытным талентам і стылем. Цяпер я прыгадваю, што ў брашуры «Ды-джэй адраджэння», якую мне ў 1997-м уручыў з аўтографам Севярынец, сярод кантактаў «правільных музыкаў» быў і яго гурт «Барадаты Грынвіч». У 2009-м я запрасіў Уладзіміра пачытаць вершы ў фальварак «Добрыя мыслі»: ён быў проста цудоўны, зрываў апладысменты. Апошні раз мы бачыліся восенню, калі ўтраіх з Нарушэвічам імправізавалі ў Палацы мастацтваў. Тады Уладзімір прыйшоў з жонкай і дарослай дачкой... На жаль. Думаю, ён мог бы яшчэ шмат зрабіць, напісаць мемуары пра жыццё беларускага музычнага андэграўнду 1990-х», — дзеліцца ўспамінамі пра прыяцеля гісторык музыкі Антон Дзянісаў.

Пахавалі Уладзіміра 21 красавіка на Нарачы, побач з магіламі продкаў.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

**Завербаваў мінчанку для прастытуцыі ў Аўстраліі**

Беларуса з аўстралійскім пашпартам затрымалі ў Мінску ў канцы 2014 года. У 41-гадовага мужчыны пры сабе знайшлі 1,93 грама какаіну і разавую дозу гашышу. Цяпер у Следчым камітэце паведамілі, што выявілася датычнасць грамадзяніна Аўстраліі да злачынстваў у сферы арганізацыі паслуг сэксуальнага характару. Ён угаварыў 22-гадовую мінчанку займацца прастытуцыяй пад яго заступніцтвам і кантролем, кліентаў пры гэтым шукаў выключна з ліку сваіх знаёмых. Мужчына зарэгістраваў з дзяўчынай фіктыўны шлюб, каб вывезці яе ў Аўстралію, дзе яна працягвала б займацца прастытуцыяй пад яго кантролем.

# Новая расстрэльная справа

30-гадовы мужчына **за адну ноч «заваліў»** траіх аднавяскоўцаў.

Упраўленнем Следчага камітэта па Мінскай вобласці завершана расследаванне крымінальнай справы супраць 30-гадовага Сяргея Х. Акрамя забойства, яго вінавацяць у крадзяжы і падпале.

1 лістапада 2014 па выкліку ў вёску Мачулішчы Мінскага раёна выехалі пажарныя. Гарэў прыватны дом. Як полымя збілі, у хаце знайшлі целы мужчыны і жанчыны. Са слядамі гвалтоўнай смерці. Па біялагічных слядах эксперты выйшлі на след падазраванага. У свае 30 Сяргей Х. быў неаднаразова судзімы за маёмасныя злачынствы. І ў той час знаходзіўся пад прэвентыўным наглядам. Але адразу яго не ўдалося затрымаць: аб'явілі ў вышук. Калі ж мужчына трапіўся ў рукі аператыўнікаў, раскрылася і яшчэ некалькі злачынстваў той лістападаўскай ночы.

Сяргей выпіваў у знаёмай пары. Але пасля некалькіх шклянак паспрачаліся. Госць некалькі разоў парнуў нажом 49-гадовага гаспадара, а затым накінуўся на яго 48-гадовую сужыцельку. Агулам на пару прыйшлося больш за дваццаць нажавых удараў. А каб схаваць сляды забойстваў, падпаліў дом. Праўда, падпал не застаўся незаўважным: сведкам стаў іншы вясковец. Сяргей Х. напаў на мужчыну і ўкінуў яго ў бетонную двухметровую яму. Той атрымаў пашкоджанні, ад якіх у выніку і памёр у бальніцы.

Ужо падчас расследавання следчыя раскрылі крадзеж, які падазраваны здзейсніў напярэдадні забойства. Праз акно ён залез у лецішча, адкуль сцягнуў мабільнік і грошы.

Сяргея Х. абвінавацілі па пяці артыкулах Крымінальнага кодэкса. Самае жорсткае пакаранне, якое пагражае, расстрэл — за трайное забойства.

Ён знаходзіцца пад вартай. Матэрыялы справы накіраваны ў суд.

**Кастусь Матушыч**

# «Быў адзін начальнік у Барысаве, які не крадзе, — і таго пасадзілі»

Экс-кіраўнік «Барысаўдрэва» ўжо сёлета **выйдзе на свабоду**.

Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда змяніла прысуд Уладзіміру Мальцаву. Дзеянні былога генеральнага дырэктара судом былі перакваліфікаваны на больш мяккія.

З прысуду выключана ўказанне на нанясенне дзеяннямі Мальцава цяжкіх наступстваў у выглядзе шкоды ААТ «Барысаўдрэў» у асабліва буйным памеры. На падставе гэтага яму прызначана пакаранне ў выглядзе 2,5 года калоніі без штрафу, але з пазбаўленнем права займаць кіраўнічыя пасады на тры гады.

Адменены прысуд у частцы выплаты Мальцавым 1,9 мільярда рублёў шкоды «Барысаўдрэву» і дзяржмыта 95 мільёнаў рублёў.

У дадатак, яму скасілі яшчэ тэрмін зняволення на год па амністыі да 70-годдзя вызвалення Беларусі. І на свабоду ён павінен выйсці ўжо праз 4 месяцы. Але да яго могуць прымяніць яшчэ і майскую амністыю: тады ён будзе дома ў маі-чэрвені. З яго маёмасці знялі арышт.

Крымінальную справу на Уладзіміра Мальцава распачалі ў сакавіку 2014. Яго абвінавацілі ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі падчас выканання дзяржпраграмы па мадэрнізацыі «Барысаўдрэва». У снежні яго асудзілі на тры гады з канфіскацыяй маёмасці і выплатай вялізных кампенсацый.

Між іншым, у Барысаве Уладзіміра Мальцава многія шкадуюць. Маўляў, добры чалавек, якога зрабілі крайнім. Нават з'явілася прымаўка: «Быў адзін начальнік у Барысаве, які не крадзе, — і таго пасадзілі».


TUT.BY

**СМ**

**Вышук**







**Прапаноўвалі «алмазы»**

Мужчыны на фота прадавалі намібійскія алмазы. Яны бралі грошы ў даверлівых людзей на каштоўныя камяні, а ў выніку не выконвалі дамовы. Называліся быццам супрацоўнікамі консульства Беларусі ў Намібіі. Па такой схеме працавалі з 2011 па 2014. Калі вы пацярпелі ад людзей на фота, звяртайцеся ў Следчы камітэт на (017) 389-50-02.

## Сцісла

**Міністэрскіх адправілі за краты**

Скончыўся суд над Галінай Грышкавец, якая ўзначальвала ўпраўленне адвакатуры і ліцэнзавання юрдзейнасці Міністэрства юстыцыі, і яе намесніцай Наталляй Беразоўскай.

Беразоўская правядзе за кратамі 4 гады з канфіскацыяй маёмасці, яшчэ яна павінна выплаціць 54 мільёны штрафу. Грышкавец адправілі ў калонію на 8 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і ўляпілі 108 мільёнаў штрафу. Абедзве яшчэ пяць гадоў пасля вызвалення не змогуць уладкавацца на працу, звязаную з арганізацыйна-распарадчымі і адміністрацыйна-гаспадарчымі абавязкамі. Іх прызналі вінаватымі ў перавышэнні ўлады і атрыманні хабару: прымалі экзамены ў юрыстаў за грошы.

**Пасадзілі следчага**

У Віцебску асудзілі былога следчага міжраённага аддзела СК. Старшы лейтэнант з лютага па верасень 2014 прадаваў наркотыкі праз інтэрнэт у Наваполацку, Полацку, Мінску. Віну на судзе прызнаў. За кратамі ён правядзе 12 гадоў, у яго канфіскуюць маёмасць. Пазбаўлены спецыяльнага звання.

**Спаліў дом па замове**

Мінчук спаліў нежылы дом у Астравецкім раёне ў канцы сакавіка. Гаспадыня, якой дом перайшоў у спадчыну, жыве за мяжой. Калі наведалася ў Беларусь і ўбачыла толькі папялішча, звярнулася ў міліцыю. Падазраванага затрымалі: гэта 18-гадовы наркаман. Ён паведаміў, што замову на падпал атрымаў праз інтэрнэт ад невядомага. За працу яму паабяцалі 600 даляраў. Расследаванне працягваецца.

**2-гадовая дачка згарэла, пакуль мама хадзіла па ваду**

Раніцай 23 красавіка адбыўся пажар у вёсцы Заполле Калінкавіцкага раёна. Гарэў прыватны дом. На момант узнікнення пажару двухгадовая дачка гаспадыні знаходзілася дома адна, сама 25-гадовая мама ў гэты час пайшла па ваду да калодзежа. Дзяўчынка памерла ў рэанімацыі з апёкамі 1, 2, 3 ступені (40% цела). Прычына пажару высвятляецца.

**КМ**

Якімі былі **апошнія дні** айца Аляксандра Надсана.

# «Я зрабіў што мог, далей вы старайцеся»


ДЭНІС РАМАНЮК

**Аляксандр Надсан**

сапраўднае імя Аляксандр Антонавіч Бочка (8 жніўня 1926, Гарадзея — 15 красавіка 2015, Лондан) — беларускі грэка-каталіцкі святар, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы.

Нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў. Падчас нацысцкай акупацыі вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы (скончыў у 1943). Скончыў курсы кіраўнікоў Саюза беларускай моладзі ў Альберціне, мінскую афіцэрскую школу Беларускай краёвай абароны.

З 1944 года — на эміграцыі. Удзельнік Руху Супраціўлення ў Францыі. Ваяваў у Польскім корпусе генерала Андэрса, паранены ў бітве пад Монтэ-Касіна (Італія).

З 1946 жыў у Вялікабрытаніі. Выпускнік матэматычнага факультэта Лонданскага ўніверсітэта (1953). Стваральнік, кіраўнік (1951—53) Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі. Магістр багаслоўя Грэчаскай калегіі ў Рыме (1953—58). У 1958 годзе прыняў святарства.

Дырэктар школы-інтэрната імя Кірылы Тураўскага пры Беларускай каталіцкай місіі (1966—75). Заснавальнік і кіраўнік бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане (з 1971). Старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі ў Вялікабрытаніі (з 1989). Ганаровы доктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня).

Пераклаў з грэчаскай і царкоўнаславянскай моў на беларускую значную частку ўсходніх літургічных тэкстаў. Аўтар больш чым 250 навуковых публікацый, кніг па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускага хрысціянства XX ст., малітоўніка «Госпаду памолімся» (2002), які з'яўляецца афіцыйным тэкстам набажэнстваў Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Вызначыў год выдання «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны (1522), а таксама расчытаў і ўвёў у навуковы ўжытак аль-кітабы беларускіх татараў. Ведаў 9 моў.

«Яго жыццё было шэдэўрам. Айцец меў проста залаты дотык: за што ні браўся — паўсюль поспех. У навуку пойдзе — адкрыцці там зробіць. У грамадскае жыццё — створыць магутную арганізацыю. Бібліятэку закладзе — ды якую! І грошай яшчэ назбірае на яе па ўсім свеце. Уражвае рэакцыя людзей — яны тэлефануюць і плачуць. Нават тыя, хто не ведаў айца блізка. Нібы нейкая духоўная эра скончылася», — кажа Караліна Мацкевіч, лонданская беларуска.

Айцец Надсан быў не проста царкоўным іерархам. Ён быў сапраўдным беларускім Далай-Ламам, апорай для беларускіх душаў па ўсім свеце. Ён умеў напаўняць душы святлом. І нават у сваім сконе айцец Надсан захаваў святую светліню.

Айцец пачаў слабець паўгода таму. Адкрыліся болі ў жываце, якія не давалі спаць, ён амаль перастаў есці і пачаў імкліва губляць вагу. Медыцынскія абследаванні не давалі пэўнага адказу. Анкалогія не пацвердзілася, а ныркавая недастатковасць, што адкрылася ў апошнія дні, была, кажуць блізкія, «хутчэй вынікам, а не прычынай».

Доктар-беларус Андрэй Мацко, які жыве ў Лондане, казаў: было ўражанне, што айцец сам вырашыў пайсці. І цягам апошніх месяцаў проста згасалі адна за адной сістэмы жыццядзейнасці арганізма.

У апошнія тыдні ён ужо мала валодаў целам, не мог нават утрымаць асадку, каб падпісаць госцю сваю кніжку (ля яго ложка ляжаў стосік асобнікаў леташняга кнігазбораўскага выдання, якім ён надта цешыўся). Але галаву меў надзвычай ясную. «Ён расказваў увесь час, — згадвае спадарыня Мацкевіч. — Пра сваё дзяцінства, пра юнацтва, пра даваенныя часы. Глядзеў старыя фота і дасканала помніў, дзе на іх хто і як чый лёс склаўся. Ён усіх помніў.

Што яшчэ здзіўляла: калі да яго хтосьці прыходзіў, ён вельмі падрабязна распытваў госця пра сваякоў, дзяцей. Як каго зваць, дзе хто жыве. Відаць, гэта быў яго спосаб трымаць сувязь са светам людзей».

«Жыву невядома навошта», «ляжу тут як калода» — такія адказы найчасцей чулі тыя, хто пытаў айца Аляксандра пра здароўе. На думках пра ўласны скон ён стараўся ўвагі не акцэнтаваць, а як заходзіла гаворка — ставіўся са светлым гумарам. Спадарыня Мацкевіч згадвае, як айцец Аляксандр, лежачы ў бальнічным ложку, спяваў ёй жорсткі расейскі раманс:

Друзья, прощайте, уміраю.
Не я, а люді говорят.
Пальто і брюкі оставляю
І две рубашкі без заплат.

Іменье это завещаю
Продать на рынке, а потом
Зайті в трактір, напіться чаю
І посетіть пітейный дом.

Дайшоўшы да «пітейного дома», ён далей не мог спяваць: спыняўся і рагатаў.

Але ў апошнія дні, калі стала зусім цяжка, маліўся пра смерць.

«Яму было вельмі няёмка, што яго даглядаюць. Ён увесь час выбачаўся. Хоць сам усё жыццё служыў людзям,» — згадвае Караліна Мацкевіч.

Апошні раз яго экстранна забралі ў бальніцу ў панядзелак, 13 красавіка. Назаўтра айцу стала трохі лепей. І ў гэтыя апошнія дні яго наведала мноства людзей. Не толькі беларусаў, але і англічан, з якімі ён быў блізкі: Джым Дынглі, Арнольд Макмілін...

У сераду ўвечары яго блізкім у Марыян Хаўз пазванілі са шпіталя і сказалі, што айцу тэрмінова будуць рабіць аперацыю на нырках. Сябры адразу ж выехалі да яго, але не паспелі. Айцец Надсан сканаў пасля аперацыі, у 22:20.

Ён быў у прытомнасці. І да апошняй хвіліны побач з ім была медсястра, 30-гадовая ірландка. Яна трымала айца за руку, каб яму не было самотна. Надсан сказаў ёй, што ён каталік. Яна таксама аказалася каталічкай. Яны проста гаварылі.

«У гэтыя апошнія месяцы айцец Аляксандр пастаянна падсумоўваў сваё жыццё, — расказвае тэолаг Ірына Дубянецкая. — Казаў: расчараванняў было больш, як удачаў. Але да людзей усё адно трэба ставіцца па-добраму. Айцец вельмі ганарыўся тым, што двух святароў выгадаваў, ганарыўся ўсімі намі — сваімі студэнтамі, «сваімі» людзьмі.

Працай, якая яго трымала, быў пераклад Кнігі псалмоў. Ён пачаў яе ў 2012-м, і даўно ўсё было гатова, але, як смяяўся сам айцец Аляксандр, «лепшае — вораг добрага». Ён увесь час іх правіў, паляпшаў, змяняў, пасля шкадаваў, што змяніў, адмяняў тыя змены. Перастаў працаваць з Псалмамі толькі ў канцы 2014-га — калі ўжо не мог сядзець за камп'ютарам».


СЯРГЕЙ ШУПА

**Нават паміраючы, ён свяціўся знутры асаблівым святлом.**

Цяпер Кніга псалмоў у перакладзе айца Аляксандра будзе рыхтавацца да выдання.

Ці даў айцец Надсан, беларус №1 на замежжы, як назвала яго Ірына Дубянецкая, нейкі наказ сваім наступнікам? «Я вельмі хацела, каб гэты наказ быў, — успамінае спадарыня Мацкевіч. — І таму сама ў яго спытала канкрэтна: як быць з бібліятэкай? Ён адказаў: я зрабіў што мог, далей вы старайцеся. Гэтыя яго словы можна пашырыць на ўсе сферы беларускага жыцця».

У Вялікабрытаніі трохі інакшая, чым у Беларусі, традыцыя пахавання. Там пакойніка не трымаюць дома, таму і хаваюць не на трэці дзень, а праз тыдзень ці два. Цела айца Аляксандра пахавалі 29 красавіка на старых могілках Святога Панкрата ва Усходнім Фінчлі, недалёка ад беларускага цэнтра Марыян Хаўз. Цуд — недалёка ад «беларускай вёскі», дзе спачывае Чэслаў Сіповіч, іншыя святары і эмігранты, знайшлося вольнае месца.

Яшчэ адзін цуд, які падарыў лёс айцу Надсану ў апошні месяц жыцця, — магчымасць пабачыць родны дом. У Марыян Хаўз прыйшоў з яго радзімы, з Гарадзеі Нясвіжскага раёна, ліст. Тамтэйшы краязнаўца размаўляў з яго аднакласніцай, 90-гадовай Янінай, якая памятае айца. Прыслаў здымкі хаты, дзе Аляксандр Надсан жыў малым. «З якім захапленнем айцец іх каментаваў! Ён усё пазнаў: у палове хаты жыла сям'я яго бацькоў, у другой была школа. І цяпер той дом прадаецца за тры тысячы даляраў. Гэта магло б быць вырашэннем пытання з музеем айца Надсана ў Беларусі», — кажа спадарыня Мацкевіч.

Ці магчымая ў будучым кананізацыя айца Аляксандра? «Пра гэта рана казаць, але калі і бываюць кандыдаты на кананізацыю — то гэта айцец, — лічыць Караліна Мацкевіч. — Я ведаю яго ад канца 80-х, калі мы з Ірынай Дубянецкай былі яго студэнткамі, вывучалі тэалогію. І розныя бывалі сітуацыі, і характар, вядома, але не пакідала адчуванне, што ён свяціўся з сярэдзіны».

«Многія людзі — нават тыя, хто бачыў яго адзін раз, — мелі ў сэрцы велізарную любоў да яго, лічылі сваім асабістым сябрам, — кажа Ірына Дубянецкая. — Для многіх ён быў адной з самых важных з'яваў у жыцці».

**Запісаў СМ**

# Вяртанне ў святло

Апошнія гадоў пяць нашы тэлефонныя размовы пачыналіся аднолькава: «Айцец Аляксандар, добры дзень. Як Вы, як здароўе?» — «Дзякую, добра, хворы і хвароба мая невылечная — старасць...» І ён заліваўся сваім непаўторным смехам. А калі мы заходзілі ў ягоны ўлюбёны італьянскі рэстаранчык на High Road у Фінчлі, на пытанне гаспадара «Come stai, padre?» ён нязменна адказваў з тым самым смехам: «Ancora vivo!» — «Яшчэ жывы!»

Айцец Аляксандар не баяўся таго дня, калі Бог пакліча яго да сябе. Апошні раз мы бачыліся 15 сакавіка, за месяц да ягонага адыходу. Ідучы да яго, я баяўся трапіць у атмасферу паміранне, баяўся ўбачыць гэтага некалі моцнага, аўтарытэтнага, амаль усёўладнага ў беларускім Фінчлі чалавека прыкаваным хваробай да ложка, прыгнечаным, адсутным, абыякавым да справаў гэтага свету. На маё здзіўленне, мяне сустрэў чалавек, які нібы скінуў з сябе зямны цяжар — мы гаварылі з ім каля гадзіны, і з твару ў яго не сыходзіла светлая ўсмешка.

Мы гаварылі і прыгадвалі ўсе прыемныя навіны апошняга часу — выхад кніг, навуковыя праекты, грамадзкія ініцыятывы, — і айцец паўсюль знаходзіў нагоду некага пахваліць, за некага парадавацца. Пахваляўся і сваёй кнігай, нядаўна выдадзенай у выдавецтве «Кнігазбор», і перакладам «Псалмоў». Нібы склаўшы сам сабе справаздачу, падсумаваўшы зробленае, сказаў: усё што мог — зрабіў, цяпер можна спакойна і да Бога выпраўляцца.

Але нават гэтая светласць адыходу айца Аляксандра не заслоніць адчування вялікай страты. Беларускі Лондан ужо ніколі не будзе такім, якім ён быў апошнія паўстагоддзя.

Смерць дарагіх людзей — якой бы блізкай і немінучай яна ні была, — заўсёды прыходзіць нечакана, а згадкі пра памерлых рука не падымаецца пісаць загадзя, каб у смутны дзень проста дастаць і апублікаваць гатовы тэкст. Таму я абмяжуюся адным эпізодам, які я не баюся назваць адной з самых незвычайных і шчаслівых падзеяў у жыцці айца Аляксандра, а заадно і ў маім.

...Прыехаўшы працаваць у Прагу летам 1997-га, я ўпершыню дарваўся да неабмежаванага інтэрнэту, і адным з першых звязаных з гэтым здарэнняў было тое, што ў каталогу лонданскага аўкцыёну Christie's я знайшоў выстаўленую на продаж кнігу Скарыны — нідзе не апісаны, невядомы навуцы асобнік за смешную цану 4000 фунтаў. Я тут жа даслаў арганізатарам заяўку і ў нейкім невытлумачальным «патрыятычным» парыве звязаўся з загадчыцай Аддзела рэдкіх выданняў Нацыянальнай бібліятэкі Таццянай Рошчынай. Яна зрабіла неабходныя захады, і выявілася, што ў справе набыцця кнігі перад галоўнай бібліятэкай краіны стаяць неадольныя бюракратычныя перашкоды. Тады мой патрыятычны туман развеяўся, я затэлефанаваў айцу Аляксандру, і ён адразу сказаў: «Бярэм! Прыязджай!»

(Рэч у тым, што Скарынаўская бібліятэка да таго часу не мела ніводнага арыгінальнага Скарынавага выдання, апрача чатырох асобных старонак Першай кнігі царстваў, якія айцец Аляксандар купіў у 1975 годзе на аўкцыёне Дзягілева ў Монтэ-Карла. А як жа Скарынаўская бібліятэка — без Скарынавых кніг...)

У Christie's я паехаў адразу з лётнішча, там мы з айцом Аляксандрам зайшлі нейкім бакавым увагодам у офіс, дзе ўсе фармальнасці занялі лічаныя хвіліны. Айцец быў нечакана ўражаны цаной — па тэлефоне ён мяне недачуў і на ўсялякі выпадак падрыхтаваў 20 тысячаў... З аўкцыёну з кнігай у руках мы йшлі ледзь не падскокам. Па дарозе ў бібліятэку зайшлі ў рэстаран (вядома ж, італьянскі!) і адзначылі надзвычайную падзею грапай. Сказаць, што айцец Аляксандр быў на сёмым небе, было б вялікім прымяншэннем.

Праз нейкі год пасля таго мы з айцом Аляксандрам замацавалі поспех — купілі ў пражскім антыкварыяце на Карлавай вуліцы чэскую Венецыянскую Біблію 1506 года, якая была адной з галоўных крыніцаў Скарынавага перакладу.

На жаль, у набытай на аўкцыёне Скарынавай кнізе быў нешчаслівы лёс, але пра гэта я сёння пісаць не буду — і з айцом Аляксандрам мы на гэтую балючую тэму ніколі не гаварылі.

Некалі, ужо дажыўшы «спелых» гадоў і пазбавіўшыся юнацкай самаўпэўненасці, я задумаўся, каго ў сваім жыцці я магу назваць сваімі настаўнікамі, — і ў мяне выйшаў спіс з пяці чалавек, у якім сваё важнае месца займае айцец Аляксандр Надсан. Ён, матэматык з адукацыі, даў мне першыя лекцыі інфарматыкі і абыходжання з камп'ютарам, ён быў неацэнным кансультантам у дарогай мне справе біблійнага перакладу, ён адкрыў мне свет міжземнаморскай кухні, навучыў глядзець на свет з добрым скептыцызмам і ўпэўненасцю ў добрай будучыні для Беларусі. «Калі Бог стварыў Беларусь і беларусаў з іх мовай — значыць, так яно і трэба. І так яно й будзе», — казаў ён.

Так яно й будзе.

**Сяргей Шупа, радыё «Свабода»**

# Святы чалавек

Свой самы вялікі выбар ён зрабіў у пачатку 1950-х. Амерыканцы прапаноўвалі яму дэсантавацца ў Беларусь і ўзяць удзел у збройнай барацьбе супраць саветаў.

Яны падбівалі на тое многіх гарачых юнакоў, што марылі пра вызваленне радзімы з-пад савецкага ярма. Янка Філістовіч, Цімох Вострыкаў, іншыя паддаліся агітацыі і паляцелі. Усе ведаюць, што з імі сталася.

Гэта была супольная аперацыя амерыканскіх і брытанскіх спецслужбаў. З брытанскага боку яе каардынаваў Кім Філбі — зорны агент савецкай разведкі. Таму саветы загадзя ведалі, каго і куды будуць скідаць з самалёта. І захаваліся ўспаміны Вострыкава. «Прызямліўся ў Налібоцкай пушчы. Схаваў парашут. Мяне інструктавалі, што месца глухое, ажно раптам — тут грыбнік і там ізноў грыбнік»... Вострыкаву далі магчымасць пабываць у Мінску й Вільні. Хацелі пабачыць, да каго ён пойдзе.

Надсан, як сам прызнаваўся, бачыў марнасць такога шляху. Надсан ціха, мусіць, да канца адчуваў боль страты сяброў, прызнаваўся, што не мог дараваць Барысу Рагулю, які дапамагаў амерыканцам вербаваць юнакоў, гэтае «расстралянае пакаленне». Колькі яны маглі б зрабіць, калі засталіся жывыя...

Сам Надсан выбраў іншы шлях. Ён скончыў матэматычны факультэт Лонданскага ўніверсітэта. І ўвосень 1953 года паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме, каб служыць свайму народу духоўна.

«Кніга псалмоў, — сказаў ён мне ў часе апошняй нашай размовы, пасля традыцыйных роспытаў наконт таго, што робіцца ў «Нашай Ніве», — гэта ўжо мая апошняя справа ў жыцці», — без суму сказаў ён.

Памяць яму пачала здраджваць толькі ў апошні год вельмі плённага жыцця.

Гэта быў унікальны чалавек, святы і мудры, рэдкаснай маральнай сілы.

Аднойчы «Наша Ніва» параўнала яго з Далай-Ламам. Ён, уніяцкі святар, не пакрыўдзіўся, толькі пасмяяўся. Ён умеў з гумарам успрымаць свет. Хоць у сваім жыцці ён не раз глядзеў у вочы смерці.

«Нашу Ніву» ён чытаў да апошняга. Бо Беларуссю ён жыў. Служыў Богу і Беларусі. Ехаў у кожны куток свету, калі людзі яго запрашалі як святара. Аддаваў апошняе, каб купіць старую беларускую кнігу для бібліятэкі. Прымаў кожнага з Беларусі ў сваім лонданскім доме.

Ён сказаў: «Я зрабіў што мог, далей вы старайцеся».

**Андрэй Дынько**



## Уладзімір Содаль

Беларускі літаратуразнаўца Уладзімір Содаль памёр вечарам 15 красавіка. Яму было 78 гадоў. Сп. Уладзімір апошнім часам цяжка хварэў, яго шпіталізавалі з праблемамі нырак, дадаўся цукровы дыябет і інфаркт.

Уладзімір Содаль даследаваў творчасць Францішка Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Зоські Верас. Ён быў шматгадовым аўтарам «Нашай Нівы», даследчыкам біяграфій яе заснавальнікаў — Аляксандра Уласава, Янкі Купалы, Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Драздовіча.

Шлях яго да Беларушчыны быў пакручастым. Пасля заканчэння Мармальскай беларускай сярэдняй школы У. Содаль працаваў электрыкам у Мурманску (Расія) на суднарамонтным ваенным заводзе. Пасля вучыўся ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя Максіма Горкага, працаваў педагогам у дзіцячым туберкулёзным санаторыі «Астрашыцкі Гарадок» і рэдактарам Беларускага тэлебачання, дзе ўзначальваў студыю «Ліцэй» і быў адным з заснавальнікаў навучальнага тэлебачання. За 34 гады працы на БТ падрыхтаваў шэраг асветніцкіх праграм, у тым ліку «У кожнага была свая вайна».

Першыя свае апавяданні У. Содаль апублікаваў у 1955 годзе ў газеце «Піянер Беларусі». З'яўляецца аўтарам шэрагу кніг і дыяфільмаў пра класікаў беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пра нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага.

Пахавалі пісьменніка і літаратуразнаўца на могілках у Астрашыцкім Гарадку, каля маці.

**СМ**

## Марыя Лукашук

На 89-м годзе жыцця памерла педагог, **настаўніца беларускай мовы** Марыя Лукашук.

Сыход у іншы свет заўсёды высвечвае сапраўдную значнасць, сапраўдны маштаб асобы. Марыя Пракопаўна Лукашук была цудоўнай Маці, Мовазнаўцай, Педагогам з вялікай літары. Яна была настаўніцай для вельмі многіх і многіх у нашай краіне, настаўніцай беларускай вернасці, беларускай ахвярнасці, аптымізму ў самыя неспрыяльныя часы. І яна была змагаркай. Яна змагалася за свае погляды, за беларускую мову, за нацыянальную ідэю, урэшце, за будучыню Беларусі. Яна пісала лісты, яна пасылала пасылкі тым, хто пакутаваў за свае погляды ў зняволенні.

Калі казаць пра тое, якой асабіста для мяне была Марыя Пракопаўна, я скажу так: яна была старэйшай сяброўкай. Яна чытала ўсе мае кніжкі і адгукалася на іх у лістах да мяне і ў водгуках у прэсе. Яна летась цэлы год, напэўна, ваявала з аўтарам адной беларусафобскай рэцэнзіі на маю кніжку «Краіна Беларусь», якая з'явілася праз 10 гадоў пасля выхаду кнігі.



25 сакавіка, у Дзень Волі, калі Марыя Пракопаўна трапіла ў шпіталь, якраз выйшла трэцяе выданне маёй кнігі «Імёны Свабоды», у якой расказваецца пра людзей, якія змагаліся за свабоду ў розных яе іпастасях і ўрэшце за будучыню, за незалежнасць Беларусі. Я не паспеў гэтую кнігу падараваць Марыі Пракопаўне, але калі ў кнізе будзе працяг, сярод герояў абавязкова будзе Марыя Лукашук.

**Уладзімір Арлоў, радыё «Свабода»**

## Леанід Сушчэня

Ён быў **прэзідэнтам Акадэміі навук**.

Леанід Сушчэня нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Малыя Лукі (сёння Баранавіцкі раён). Скончыў БДУ (1953), а таксама аспірантуру пры ўніверсітэце. Пачынаў працаваць на кафедры заалогіі бесхрыбетных БДУ.

Пасля на працягу перыяду звязаў свой лёс з украінскім Севастопалем, дзе працаваў у Інстытуце біялогіі паўднёвых мораў НАН Украіны. Ад 1971 года вяртаецца ў Беларусь,



дзе спачатку быў загадчыкам аддзела паразіталогіі Акадэміі навук, а пасля дырэктарам Інстытута заалогіі.

У 1992 годзе, якраз пасля набыцця Беларуссю незалежнасці, Сушчэня становіцца прэзідэнтам Акадэміі навук. На гэтай пасадзе ён знаходзіцца да 1997 года, калі яго замяняе Аляксандр Вайтовіч.

**ЗП**

## Уладзіслаў Барташэўскі

Гэта быў чалавек-легенда. У вайну ён удзельнічаў у польскім падполлі і Арміі Краёвай, ваяваў у Варшаўскім паўстанні. Выконваў спецыяльную місію падполля па ратаванні яўрэяў. Трапіў у Асвенцім. Выжыў. Пасля вайны ён тройчы сядзеў у турмах камуністычнай Польшчы. За ўдзел у апазіцыі яго двойчы судзілі за «шпіянаж». Выжыў.

Ён памёр у Варшаве ў 93 гады 24 красавіка. Гэта быў чалавек з непарадальным пачуццём гумару. «У 68 гадоў я стаў амбасадарам; у 73 — міністрам, у 75 — сенатарам, у 78 — другі раз міністрам. Цяжка было прывыкаць». І як міністр, і на пасадзе старшыні Польскага ПЭН-цэнтра ён быў вялікім сябрам Беларусі.

**МБ**

# ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс»

Уліковы нумар плацельшчыка: 806000508
Від эканамічнай дзейнасці: 67201
Арганізацыйна-прававая форма: Таварыства з абмежаванай адказнасцю
Адзінка вымярэння: млн.руб.
Адрас: 220014 г. Мінск, вул. Арлоўская, дом 58, памяшканне 3

**БУХГАЛТАРСКІ БАЛАНС**
На 31 снежня 2014 г.

| Актывы | Код радка | На 31 снежня 2014 года | На 31 снежня 2013 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| I. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | | |
| Асноўныя сродкі | 110 | - | - |
| Нематэрыяльныя актывы | 120 | - | - |
| Прыбытковыя ўкладанні ў матэрыяльныя актывы | 130 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| інвестыцыйная дзейнасць | 131 | | |
| прадметы фінансавой арэнды (лізінгу) | 132 | | |
| іншыя прыбытковыя ўкладанні ў матэрыяльныя актывы | 133 | - | - |
| Укладанні ў доўгатэрміновыя актывы | 140 | 15 | - |
| Доўгатэрмновыя фінансавыя ўкладанні | 150 | - | - |
| Адкладзеныя падатковыя актывы | 160 | - | - |
| Доўгатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 170 | - | - |
| Іншыя доўгатэрміновыя актывы | 180 | - | - |
| РАЗАМ па раздзелу I | 190 | 15 | - |
| II. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | | |
| Запасы | 210 | 1 | - |
| У тым ліку: | | | |
| матэрыялы | 211 | 1 | - |
| жывёлы на вырошчванні і адкорме | 212 | - | - |
| незавершаная вытворчасць | 213 | - | - |
| готовая прадукцыя і тавары | 214 | - | - |
| тавары адгружаныя | 215 | - | - |
| іншыя запасы | 216 | - | - |
| Доўгатэрміновыя актывы, прызначаныя для рэалізацыі | 220 | - | - |
| Выдаткі будучых перыядаў | 230 | - | - |
| Падатак на дададуную вартасць па набытых таварах, работах, паслугах | 240 | - | - |
| Кароткатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 250 | 341 | - |
| Кароткатэрміновыя фінансавыя ўкладанні | 260 | - | - |
| Грашовыя сродкі і іх эквіваленты | 270 | 388 | - |
| Іншыя кароткатэрміновыя актывы | 280 | - | - |
| РАЗАМ по разделу II | 290 | 730 | - |
| БАЛАНС | 300 | 745 | - |
| **Уласны капітал і абавязальніцтвы** | **Код радка** | **На 31 снежня 2014 года** | **На 31 снежня 2013 года** |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| III. УЛАСНЫ КАПІТАЛ | | | |
| Статутны капітал | 410 | 340 | - |
| Неаплачаная частка статутнага капітала | 420 | - | - |
| Уласныя акцыі (долі ў статутным капітале) | 430 | - | - |
| Рэзервовы капітал | 440 | 23 | - |
| Дадатковы капітал | 450 | - | - |
| Неразмеркаваны прыбытак (непакрытыя выдаткі) | 460 | 143 | - |
| Чысты прыбытак (выдаткі) справаздачнага перыяда | 470 | - | - |
| Мэтавае фінансаванне | 480 | - | - |
| РАЗАМ па разделу III | 490 | 506 | - |
| IV. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | | |
| Доўгатэрміновыя крэдыты і займы | 510 | - | - |
| Доўгатэрміновыя абавязкі па лізінгавых плацяжах | 520 | - | - |
| Адкладзеныя падаткавыя абавязкі | 530 | - | - |
| Прыбыткі маючых адбыцца перыядаў | 540 | - | - |
| Рэзервы наступных плацяжоў | 550 | - | - |
| Іншыя доўгатэрміновыя абавязкі | 560 | - | - |
| РАЗАМ па раздзелу IV | 590 | - | - |
| V. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | | |
| Кароткатэрміновыя крэдыты і займы | 610 | 5 | - |
| Кароткатэрміновая частка доўгатэрміновых абавязкаў | 620 | - | - |
| Кароткатэрміновая крэдытарская запазычанасць | 630 | 234 | - |
| У тым ліку: | | | |
| пастаўшчыкам, падрадчыкам, выканаўцам | 631 | 36 | - |
| па авансах атрыманых | 632 | 2 | - |
| па падатках і зборах | 633 | 19 | - |
| па сацыяльным страхаванні і забеспячэнні | 634 | 42 | - |
| па аплаце працы | 635 | 135 | - |
| па лізінгавых плацяжах | 636 | - | - |
| уласніку маёмасці (заснавальнікам, удзельнікам) | 637 | - | - |
| іншым крэдыторам | 638 | - | - |
| Абавязальніцтвы, прызначаныя для рэалізацыі | 640 | - | - |
| Прыбыткі будучых перыядаў | 650 | - | - |
| Рэзервы маючых адбыцца плацяжоў | 660 | - | - |
| Іншыя кароткатэрміновыя абавязальніцтвы | 670 | - | - |
| РАЗАМ па раздзелу V | 690 | 239 | - |
| БАЛАНС | 700 | 745 | - |

Кіраўнік П.А. Жыткоў
Галоўны бухгалтар А.В. Рамановіч

**СПРАВАЗДАЧА ПРА ПРЫБЫТКІ І ВЫДАТКІ**
за студзень - снежань 2014 года

| Найменне паказнікаў | Код радка | За студзень-снежань 2014 года | За студзень-снежань 2013 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 010 | 2 069 | - |
| Сабекошт рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 020 | - | - |
| Валавы прыбытак (010 — 020) | 030 | 2 069 | - |
| Кіраўнічыя выдаткі | 040 | (1 647) | - |
| Выдаткі на рэалізацыю | 050 | - | - |
| Прыбытак (выдаткі) ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг (030 — 040 — 050) | 060 | 422 | - |
| Іншыя прыбыткі па бягучай дзейнасці | 070 | - | - |
| Іншыя выдаткі па бягучай дзейнасці | 080 | (3) | - |
| «Прыбытак (выдаткі) ад бягучай дзейнасці | | | |
| (± 060 + 070 — 080)» | 090 | 419 | - |
| Прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 100 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| прыбыткі ад выбыцця асноўных сродкаў, нематэрыяльных актываў і іншых доўгатэрміновых актываў | 101 | - | - |
| прыбыткі ад удзелу ў статутным капітале іншых арганізацый | 102 | - | - |
| працэнты да атрымання | 103 | - | - |
| іншыя прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 104 | - | - |
| Выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 110 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| выдаткі ад выбыцця асноўных сродкаў, нематэрыяльных актываў і іншых доўгатэрміновых актываў | 111 | - | - |
| іншыя выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 112 | - | - |
| Прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 120 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязкаў | 121 | - | - |
| іншыя прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 122 | - | - |
| Выдаткі па фінансавай дзейнасці | 130 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| працэнты да выплаты | 131 | - | - |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязальніцтваў | 132 | - | - |
| іншыя выдаткі па фінансавай дзейнасці | 133 | - | - |
| **Найменне паказнікаў** | **Код радка** | **За студзень-снежань 2014 года** | **За студзень-снежань 2013 года** |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Прыбытак (выдаткі) ад інвестыцыйнай дзейнасці (100 - 110 + 120 - 130) | 140 | - | - |
| Прыбытак (выдаткі) да падаткаабкладання (± 090 ± 140) | 150 | 419 | - |
| Падатак на прыбытак | 160 | (76) | - |
| Змена адкладзеных падаткавых актываў | 170 | - | - |
| Змена адкладзеных падаткавых абавязальніцтваў | 180 | - | - |
| Іншыя падаткі і зборы, якія вылічваюцца з прыбытка (дахода) | 190 | - | - |
| Іншыя плацяжы, якія вылічваюцца з прыбытка (дахода) | 200 | - | - |
| «Чысты прыбытак (выдаткі) | | | |
| (± 150 — 160 ± 170 ± 180 — 190 — 200)» | 210 | 343 | - |
| Вынік ад пераацэнкі доўгатэрміновых актываў, якіне ўключаецца ў чысты прыбытак (выдаткі) | 220 | - | - |
| Вынік ад іншых аперацый, якія не ўключаюцца ў чысты прыбытак (выдаткі) | 230 | - | - |
| Сукупны прыбытак (выдаткі) (± 210 ± 220 ± 230) | 240 | 343 | - |
| Базавы прыбытак (выдаткі) на акцыю | 250 | - | - |
| Разводнены прыбытак (выдаткі) на акцыю | 260 | - | - |

**АУДЫТАРСКАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ**
па бухгалтарскай справаздачнасці
Таварыства з абмежаванай адказнасцю
«Страхавы брокер Паўднёвы поліс»
за перыяд з 01 студзеня 2014 г. да 31 снежня 2014 г.

Дырэктару ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс»
Жыткову П.А.

Рэквізіты аўдзіраванай асобы:
Найменне арганізацыі: Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Страхавы брокер Паўднёвы поліс» (ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс»);
Месцазнаходжанне: 220014 г. Мінск, вул. Арлоўская, 58, пам.3;
Звесткі пра дзяржаўную рэгістрацыю: Загад Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь пра ўнясенне ў Адзіны дзяржаўны рэгістр юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў нумарам 806000508.
Рэквізіты аўдытара-індывідуальнага прадпрымальніка
Аўдытар-індывідуальны прадпрымальнік Казарына Любоў Аляксандраўна;
Месцазнаходжане: 220056 г. Мінск, вул. Рагачоўская, дом 7, кв.11;
Звесткі пра дзяржаўную рэгістрацыю: Рашэнне Мінскага гарвыканкама № 63 ад 19.01.2001,
Рэгістрацыйны нумар 101507723.

Мною праведзены аўдыт прыкладанай бухгалтарскай справаздачнасці ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс», якая складаецца з:
- бухгалтарскага баланса на 31 снежня 2014 г.,
- справаздачы пра выдаткі і прыбыткі;
- справаздачы пра змены ўласнага капітала;
- справаздачы пра рух грашовых сродкаў за 2014 год;
- заўваг да бухгалтарскай справаздачнасці.

АБАВЯЗКІ КІРАЎНІЦТВА АЎДЗІРАВАНАЙ АСОБЫ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ БУХГАЛТАРСКАЙ СПРАВАЗДАЧНАСЦІ

Кіраўніцтва ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс» нясе адказнасць за складанне і прадастаўленне бухгалтарскай справаздачнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь па бухгалтарскім уліку і справаздачнасці і арганізацыю сістэмы ўнутранага кантролю, неабходнай для складання бухгалтарскай справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў, дапушчаных з прычыны нядобрасумленных дзеянняў і памылак.

АБАВЯЗКІ АЎДЫТАРА — ІНДЫВІДУАЛЬНАГА ПРАДПРЫМАЛЬНІКА

Я нясу адказнасць за выказанае мной аўдытарскае меркаванне аб дакладнасці бухгалтарскай справаздачнасці, заснаванае на выніках праведзенага аўдыту.

Мною праведзены аўдыт ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закона Рэспублікі Беларусь ад 12 ліпеня 2013 года «Аб аўдытарскай дзейнасці» і нацыянальных правілаў аўдытарскай дзейнасці, якія абавязваюць мяне выконваць нормы прафесійнай этыкі, планаваць і праводзіць аўдыт такім чынам, каб забяспечыць дастатковую ўпэўненасць адносна наяўнасці альбо адсутнасці істотных скажэнняў ў прадстаўленай бухгалтарскай справаздачнасці.

Падчас аўдыту мною былі выкананы аўдытарскія працэдуры, скіраваныя на атрыманне аўдытарскіх доказаў, якія пацвярджаюць значэнні паказнікаў бухгалтарскай справаздачнасці ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс», а таксама іншую разгорнутую ў ёй інфармацыю. Выбар аўдытарскіх працэдур ажыццяўляўся на падставе прафесійнага меркавання з улікам ацэнкі рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай справаздачнасці ў выніку памылак або нядобрасумленных дзеянняў. Пры ацэнцы рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай справаздачнасці мною разглядалася сістэма ўнутранага кантролю ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс», неабходная для складання ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс» бухгалтарскай справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў, з мэтай планавання аўдытарскіх працэдур, адпаведных абставінам аўдыту, але не з мэтай выказвання меркавання адносна эфектыўнасці функцыянавання гэтай сістэмы.

Аўдыт таксама уключаў ацэнку ўжыванай уліковай палітыкі, абгрунтаванасці ўліковых ацэнак і агульнага ўтрымання бухгалтарскай справаздачнасці ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс».

Я мяркую, што падчас аўдыту мною былі атрыманы дастатковыя і належныя аўдытарскія доказы, якія могуць з'яўляцца падставай для выказвання аўдытарскага меркавання.

АЎДЫТАРСКАЕ МЕРКАВАННЕ

На маю думку, бухгалтарская справаздачнасць ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс», сфарміраваная ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства Рэспублікі Беларусь па бухгалтарскім уліку і справаздачнасці, дакладна ва ўсіх істотных аспектах адлюстроўвае фінансавае становішча ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс» на 1 студзеня 2015 г. і вынікі яго фінансава-гаспадарчай дзейнасці за 2014 г., пры гэтым здзейсненыя ТАА «Страхавы брокер Паўднёвы поліс» фінансавыя (гаспадарчыя) аперацыі адпавядаюць заканадаўству.

Аўдытар — індывідуальны прадпрымальнік Казарына Л.А.
Дата падпісання аўдытарскага заключэння: 10 сакавіка 2015 г.

**www.strahovka.by**

# ТАА «Універсальны страхавы брокер»

Уліковы нумар плацельшчыка: 806000393
Від эканамічнай дзейнасці: 67 201
Арганізацыйна-прававая форма: Таварыства з абмежаванай адказнасцю
Адзінка вымярэння: млн.руб.
Адрас: г.Мінск, праспект Незалежнасці, 66-3

**БУХГАЛТАРСКІ БАЛАНС**
На 31 снежня 2014 года

| Актывы | Код радка | На 31 снежня 2014 года | На 31 снежня 2013 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| I. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | | |
| Асноўныя сродкі | 110 | 10 | - |
| Нематэрыяльныя актывы | 120 | 9 | - |
| Прыбытковыя ўкладанні ў матэрыяльныя актывы | 130 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| інвестыцыйная дзейнасць | 131 | | |
| прадметы фінансавой арэнды (лізінгу) | 132 | | |
| іншыя прыбытковыя ўкладанні ў матэрыяльныя актывы | 133 | - | - |
| Укладанні ў доўгатэрміновыя актывы | 140 | - | - |
| Доўгатэрмновыя фінансавыя ўкладанні | 150 | - | - |
| Адкладзеныя падатковыя актывы | 160 | - | - |
| Доўгатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 170 | - | - |
| Іншыя доўгатэрміновыя актывы | 180 | - | - |
| РАЗАМ па раздзелу I | 190 | 19 | - |
| II. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | | |
| Запасы | 210 | 3 | - |
| У тым ліку: | | | |
| матэрыялы | 211 | 3 | - |
| жывёлы на вырошчванні і адкорме | 212 | - | - |
| незавершаная вытворчасць | 213 | - | - |
| готовая прадукцыя і тавары | 214 | - | - |
| тавары адгружаныя | 215 | - | - |
| іншыя запасы | 216 | - | - |
| Доўгатэрміновыя актывы, прызначаныя для рэалізацыі | 220 | - | - |
| Выдаткі будучых перыядаў | 230 | - | - |
| Падатак на дададуную вартасць па набытых таварах, работах, паслугах | 240 | - | - |
| Кароткатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 250 | 186 | - |
| Кароткатэрміновыя фінансавыя ўкладанні | 260 | - | - |
| Грашовыя сродкі і іх эквіваленты | 270 | 363 | - |
| Іншыя кароткатэрміновыя актывы | 280 | - | - |
| РАЗАМ по разделу II | 290 | 552 | - |
| БАЛАНС | 300 | 571 | - |
| **Уласны капітал і абставіны** | **Код радка** | **На 31 снежня 2014 года** | **На 31 снежня 2013 года** |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| III. УЛАСНЫ КАПІТАЛ | | | |
| Статутны капітал | 410 | 339 | - |
| Неаплачаная частка статутнага капітала | 420 | - | - |
| Уласныя акцыі (долі ў статутным капітале) | 430 | - | - |
| Рэзервовы капітал | 440 | 25 | - |
| Дадатковы капітал | 450 | - | - |
| Неразмеркаваны прыбытак (непакрытыя выдаткі) | 460 | - | - |
| Чысты прыбытак (выдаткі) справаздачнага перыяда | 470 | - | - |
| Мэтавае фінансаванне | 480 | - | - |
| РАЗАМ па разделу III | 490 | 364 | - |
| IV. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | | |
| Доўгатэрміновыя крэдыты і займы | 510 | - | - |
| Доўгатэрміновыя абавязкі па лізінгавых плацяжах | 520 | - | - |
| Адкладзеныя падаткавыя абавязкі | 530 | - | - |
| Прыбыткі маючых адбыцца перыядаў | 540 | - | - |
| Рэзервы наступных плацяжоў | 550 | - | - |
| Іншыя доўгатэрміновыя абавязкі | 560 | - | - |
| РАЗАМ па раздзелу IV | 590 | - | - |
| V. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | | |
| Кароткатэрміновыя крэдыты і займы | 610 | - | - |
| Кароткатэрміновая частка доўгатэрміновых абавязкаў | 620 | - | - |
| Кароткатэрміновая крэдыторская запазычанасць | 630 | 207 | - |
| У тым ліку: | | | |
| пастаўшчыкам, падрадчыкам, выканаўцам | 631 | 13 | - |
| па авансах атрыманых | 632 | - | - |
| па падатках і зборах | 633 | 52 | - |
| па сацыяльным страхаванні і забеспячэнні | 634 | 9 | - |
| па аплаце працы | 635 | 22 | - |
| па лізінгавых плацяжах | 636 | - | - |
| уласніку маёмасці (заснавальнікам, удзельнікам) | 637 | 101 | - |
| іншым крэдыторам | 638 | 10 | - |
| Абавязальніцтвы, прызначаныя для рэалізацыі | 640 | - | - |
| Прыбыткі будучых перыядаў | 650 | - | - |
| Рэзервы маючых адбыцца плацяжоў | 660 | - | - |
| Іншыя кароткатэрміновыя абавязальніцтвы | 670 | - | - |
| РАЗАМ па раздзелу V | 690 | 207 | - |
| БАЛАНС | 700 | 571 | - |

Кіраўнік І.А.Барташэвіч
Галоўны бухгалтар ІП Крук О.Я.

**СПРАВАЗДАЧА ПРА ПРЫБЫТКІ І ВЫДАТКІ**
За студзень — снежань 2014 года

| Найменне паказнікаў | Код радка | За студзень - снежань 2014 года | За студзень - снежань 2013 года |
|---|---|---|---|
| Выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 010 | 1 249 | - |
| Сабекошт рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 020 | - | - |
| Валавы прыбытак (010 — 020) | 030 | 1 249 | - |
| Кіраўнічыя выдаткі | 040 | (705) | - |
| Выдаткі на рэалізацыю | 050 | - | - |
| Прыбытак (выдаткі) ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг (030 — 040 — 050) | 060 | 544 | - |
| Іншыя прыбыткі па бягучай дзейнасці | 070 | - | - |
| Іншыя выдаткі па бягучай дзейнасці | 080 | - | - |
| «Прыбытак (выдаткі) ад бягучай дзейнасці | | | |
| (± 060 + 070 — 080)» | 090 | 544 | - |
| Прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 100 | 2 | - |
| У тым ліку: | | | |
| прыбыткі ад выбыцця асноўных сродкаў, нематэрыяльных актываў і іншых доўгатэрміновых актываў | 101 | - | - |
| прыбыткі ад удзелу ў статутным капітале іншых арганізацый | 102 | - | - |
| працэнты да атрымання | 103 | 2 | - |
| іншыя прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 104 | - | - |
| Выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 110 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| выдаткі ад выбыцця асноўных сродкаў, нематэрыяльных актываў і іншых доўгатэрміновых актываў | 111 | - | - |
| іншыя выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 112 | - | - |
| Прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 120 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязкаў | 121 | - | - |
| іншыя прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 122 | - | - |
| Выдаткі па фінансавай дзейнасці | 130 | - | - |
| У тым ліку: | | | |
| працэнты да выплаты | 131 | - | - |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязальніцтваў | 132 | - | - |
| іншыя выдаткі па фінансавай дзейнасці | 133 | - | - |
| **Найменне паказнікаў** | **Код радка** | **За студзень - снежань 2014 года** | **За студзень - снежань 2013 года** |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Прыбытак (выдаткі) ад інвестыцыйнай дзейнасці (100 - 110 + 120 - 130) | 140 | 2 | - |
| Прыбытак (выдаткі) да падаткаабкладання (± 090 ± 140) | 150 | 546 | - |
| Падатак на прыбытак | 160 | (98) | - |
| Змена адкладзеных падаткавых актываў | 170 | - | - |
| Змена адкладзеных падаткавых абавязальніцтваў | 180 | - | - |
| Іншыя падаткі і зборы, якія вылічваюцца з прыбытка (дахода) | 190 | - | - |
| Іншыя плацяжы, якія вылічваюцца з прыбытка (дахода) | 200 | - | - |
| «Чысты прыбытак (выдаткі) | | | |
| (± 150 — 160 ± 170 ± 180 — 190 — 200)» | 210 | 448 | - |
| Вынік ад пераацэнкі доўгатэрміновых актываў, якіне ўключаецца ў чысты прыбытак (выдаткі) | 220 | - | - |
| Вынік ад іншых аперацый, якія не ўключаюцца ў чысты прыбытак (выдаткі) | 230 | - | - |
| Сукупны прыбытак (выдаткі) (± 210 ± 220 ± 230) | 240 | 448 | - |
| Базавы прыбытак (выдаткі) на акцыю | 250 | - | - |
| Разводнены прыбытак (выдаткі) на акцыю | 260 | - | - |

**АУДЫТАРСКАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ**
па бухгалтарскай справаздачнасці
Таварыства з абмежаванай адказнасцю
«Універсальны страхавы брокер»
за перыяд з 01 студзеня 2014 г. да 31 снежня 2014 г.

Дырэктару ТАА «Універсальны страхавы брокер»
Барташэвічу І.А.

Рэквізіты аўдзіраванай асобы:
Назва арганізацыі: Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Універсальны страхавы брокер» (ТАА «Універсальны страхавы брокер»);
Месцазнаходжанне: г. Мінск, пр-кт Незалежнасці, 66-3;
Звесткі пра дзяржаўную рэгістрацыю: Загад Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь пра ўнясенне ў Адзіны дзяржаўны рэгістр юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў нумарам 806000393.
Рэквізіты аўдытара-індывідуальнага прадпрымальніка
Аўдытар-індывідуальны прадпрымальнік Казарына Любоў Аляксандраўна;
Месцазнаходжане: 220056 г. Мінск, вул. Рагачоўская, дом 7, кв.11;
Звесткі пра дзяржаўную рэгістрацыю: Рашэнне Мінскага гарвыканкама № 63 ад 19.01.2001,
Рэгістрацыйны нумар 101507723.

Мною праведзены аўдыт прыкладанай бухгалтарскай справаздачнасці ТАА «Універсальны страхавой брокер», якая складаецца з:
- бухгалтарскага баланса на 31 снежня 2014 г.,
- справаздачы пра выдаткі і прыбыткі;
- справаздачы пра змены ўласнага капітала;
- справаздачы пра рух грашовых сродкаў за 2014 год;
- заўваг да бухгалтарскай справаздачнасці.

**АБАВЯЗКІ КІРАЎНІЦТВА АЎДЗІРАВАНАЙ АСОБЫ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ БУХГАЛТАРСКАЙ СПРАВАЗДАЧНАСЦІ**

Кіраўніцтва ТАА «Універсальны страхавы брокер» нясе адказнасць за складанне і прадастаўленне бухгалтарскай справаздачнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь па бухгалтарскім уліку і справаздачнасці і арганізацыю сістэмы ўнутранага кантролю, неабходнай для складання бухгалтарскай справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў, дапушчаных з прычыны нядобрасумленных дзеянняў і памылак.

**АБАВЯЗКІ АЎДЫТАРА — ІНДЫВІДУАЛЬНАГА ПРАДПРЫМАЛЬНІКА**

Я нясу адказнасць за выказанае мною аўдытарскае меркаванне аб дакладнасці бухгалтарскай справаздачнасці, заснаванае на выніках праведзенага аўдыту.

Мною праведзены аўдыт у адпаведнасці з патрабаваннямі Закона Рэспублікі Беларусь ад 12 ліпеня 2013 года «Аб аўдытарскай дзейнасці» і нацыянальных правілаў аўдытарскай дзейнасці, якія абавязваюць мяне выконваць нормы прафесійнай этыкі, планаваць і праводзіць аўдыт такім чынам, каб забяспечыць дастатковую ўпэўненасць адносна наяўнасці альбо адсутнасці істотных скажэнняў ў прадстаўленай бухгалтарскай справаздачнасці.

Падчас аўдыту мною былі выкананы аўдытарскія працэдуры, накіраваныя на атрыманне аўдытарскіх доказаў, якія пацвярджаюць значэнні паказчыкаў бухгалтарскай справаздачнасці ТАА «Універсальны страхавой брокер», а таксама іншую разгорнутую ў ёй інфармацыю. Выбар аўдытарскіх працэдур ажыццяўляўся на падставе прафесійнага меркавання з улікам ацэнкі рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай справаздачнасці ў выніку памылак або нядобрасумленных дзеянняў. Пры ацэнцы рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай справаздачнасці мною разглядалася сістэма ўнутранага кантролю ТАА «Універсальны страхавы брокер», неабходная для складання ТАА «Універсальны страхавы брокер» бухгалтарскай справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў, з мэтай планавання аўдытарскіх працэдур, адпаведных абставінах аўдыту, але не з мэтай выказвання меркавання адносна эфектыўнасці функцыянавання гэтай сістэмы. Аўдыт таксама уключаў ацэнку прымяняецца ўліковай палітыкі, абгрунтаванасці уліковых ацэнак і агульнага ўтрымання бухгалтарскай справаздачнасці ТАА «Універсальны страхавы брокер».

Я лічу, што падчас аўдыту мною былі атрыманы дастатковыя і належныя аўдытарскія доказы, якія могуць з'яўляцца падставай для выражэння аўдытарскага меркавання.

**АЎДЫТАРСКАЕ МЕРКАВАННЕ**

На маю думку, бухгалтарская справаздачнасць ТАА «Універсальны страхавы брокер», сфармаваная ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства Рэспублікі Беларусь па бухгалтарскім уліку і справаздачнасці, даставерна ва ўсіх істотных аспектах адлюстроўвае фінансавае становішча ТАА «Універсальны страхавы брокер» на 1 студзеня 2015 года і вынікі яго фінансава-гаспадарчай дзейнасці за 2014 г., пры гэтым здзейсненыя ТАА «Універсальны страхавы брокер» фінансавыя (гаспадарчыя) аперацыі адпавядаюць заканадаўству.

Аўдытар - індывідуальны прадпрымальнік Казарына Л.А.
Дата падпісання аўдытарскага заключэння: 11 сакавіка 2015 г.

**http://www.100strahovok.by/raskryitie-informaczii.html**

# Каліфарнійскі рокер з Бярозы Улад Кухарчук

**Улад Кухарчук быў названы адным з 30 маладых беларускіх топ-прадпрымальнікаў.**

Яму 28, жыве ў Сан-Францыска. Сфера дзейнасці — шоу-бізнэс. Дакладней, музычны гурт Kiwi Time, у якім Улад сядзіць за ўдарнымі і выконвае ролю менеджара.



### Тры беларускія акорды

Увесь гурт родам з Бярозы, расказвае Улад. Сябры з дзяцінства. Разам з гітарыстам Ёгам пачыналі граць панк-рок у бэндзе ЖБДДБ — спачатку ў Бярозе, потым у Мінску. Праекта Kiwi Time тады не было, музыку гралі проста ў сваю асалоду — для сябе і сяброў.

«У Беларусі пазітыўную музыку граць не вельмі хацелася», — тлумачыць Улад. Юнацкі максімалізм, плэй-ліст з Neuro Dubel, Lumen і «Гражданской Обороны» ды сувора асяроддзе далі ў выніку «сацыяльна скіраваны» жанр. «Туды не хадзі, таго не рабі, кожны намагаецца ставіць палкі ў колы», — так бачыў ён свет вакол сябе.

Як кажа Улад, у Беларусі ўзровень іх музыкі не рос, развіць свой патэнцыял было немагчыма.

Паводле яго назіранняў, і публіка ў Беларусі больш закрытая, чым у ЗША. Калі беларусу спадабаўся канцэрт, ён наўрад ці пабяжыць за сцэну казаць гурту, як крута ён адыграў. Амерыканцы ў такіх выпадках, кажа Улад, наадварот, «у дошку свае».

Ён згадвае, што і ў беларускіх школах, напрыклад, за памылку адразу дэматывуюць: маўляў, у цябе нічога не выйдзе ў жыцці, адкуль у цябе рукі растуць!

У Штатах жа наадварот — прынята матываваць на дасягненні, маркуе Улад. Ён прыгадвае, як у снежні граў з сусветна вядомым драмерам Уілам Кэлхунам — спачатку адчуваў сябе няўтульна ад таго, што музыка такога ўзроўню ацэньвае яго ігру. У канцы дня Улад спытаў Кэлхуна, як той ставіцца да памылак. «Рабі як мага больш памылак, толькі так ты зможаш стаць лепшым».

### З Агаё ў Сан-Францыска

У Амерыку Улада прывялі, як ён кажа, «цікаўнасць і безвыходнасць».

У 2007 годзе ён упершыню трапіў у Штаты па праграме Work and Travel. «Прыехаў, гляджу — усё класна, людзі пазітыўныя, усе могуць паразумецца адзін з адным...» — Улада здзівіла амерыканская атмасфера. Пасля доўгіх роздумаў ён вырашыў паспрабаваць знайсці сабе месца ў ЗША.

Спачатку Улад трапіў у маленькую вёску ў штаце Агаё, дзе музыка працаваў на будоўлях (дахі рабіў). Спрабаваў граць з рознымі людзьмі, ды было цяжка — не адчуваў «духоўнай сувязі». Патрэбны былі «свае людзі, з якімі не трэба нічога абмяркоўваць: проста сядаеш і граеш».

«Месца, дзе я жыў у Агаё, як зачараваны востраў — калі людзі з былога СССР пачынаюць зарабляць грошы, яны забываюць пра свае мэты і мары. І, як вынік, завісаюць на адным месцы ды дэградуюць», — згадвае ён.

У хуткім часе вырашыў пераехаць у Сан-Францыска, дзе знайшоў патрэбнае «кам'юніці». Там ён ужо працаваў грузчыкам, што «здалося пушынкай у параўнанні з дахамі Агаё». Зараз Улад кажа, што Беларусь — яго Бацькаўшчына, але Сан-Францыска — яго дом.

У Сан-Францыска яму не ставала толькі родных яму людзей, ды праз два гады да яго далучыліся вакалістка Аня і клавішнік-гітарыст Мікалай — пачалі граць акустычны праект. У 2011 годзе гурт уз'яднаўся з прыездам гітарыста Ёгі. Такім чынам, сышло 4 гады, каб аб'яднацца і адрадзіць Kiwi Time.




### «Цяжкая папса»

Калі ўвесь гурт сабраўся, паўстала пытанне: граць для сябе і сяброў ці працаваць па-сур'ёзнаму?

Якраз у гэты час Улад пасля трох год навучання ў гарадскім каледжы Сан-Францыска быў залічаны ва Універсітэт штата ў Сан-Францыска на Business Administration — тое, аб чым для яго марылі бацькі.

«Прыйшлося абіраць, ці займацца тым, што ты любіш, ці тым, што прынясе табе фінансавае задавальненне», — кажа Улад. Ён і яго гурт вырашылі, што выйсце толькі адно: на чужыне сярод незнаёмцаў усё роўна трэба пачынаць усё з нуля, таму можна рызыкнуць.

Дакладнага плана зноў жа не было, толькі мара. Улад «завязаў» з навучаннем і «пагоняй за корачкай» ды вырашыў прысвяціць жыццё музыцы, заняткам ёгай і здароваму ладу жыцця.

Ён кажа, што не баяўся таго, што ў Амерыцы і без іх ёсць сотні тысяч музыкаў. «Шанец ёсць ва ўсіх, усё залежыць ад светапогляду», — пераконвае ён.

Першы альбом Kiwi Time, запісаны ўласнымі сіламі гурту, хутчэй нагадваў беларускую творчасць. Грошы на яго запіс сабралі праз ахвяраванні на сэрвісе IndieGoGo. Другі альбом пісалі ўжо з лэйблам — гэты запіс затым трапіў у рукі да поп-прадзюсара Дэна Шы (які, між іншым, працаваў з Мараяй Керы, Джэніфер Лопес і Селін Дыён). Ён прапанаваў дадаць электроннага, танцавальнага саўнду — гурт загучаў больш «пакамерцыйнаму».

«Indie-dance-pop-rock — пабеларуску гэта, напэўна, жорсткая папса», — смяецца Улад. Але дадае: рабіць поп цяжэй, чым рок. Больш часу трэба праводзіць у студыі, больш укладваць энергіі, каб зрабіць хіт.

### Прыемны беларускі акцэнт

Вядома, беларускі акцэнт у сяброў заўважны, нягледзячы на заняткі з выкладчыкам па вакале. На запісах, што цяпер можна паслухаць, адчуваецца, як вакал «рэзалі на шматкі» і збіралі ў фразы, каб голас гучаў больш «па-амерыканску», сцвярджае Улад.

«Калі гаворыш па-беларуску ці па-руску, выкарыстоўваеш зусім іншыя мышцы. Цяжка адначасова думаць пра гэта і сканцэнтравацца на энергетыцы, — кажа ён. — Але «practice makes perfect», як кажуць амерыканцы».

Ды трохі акцэнту гурту рэкамендавалі пакінуць, каб было пазнавальнае і непаўторнае гучанне. «Як у System of a Down ці Gogol Bordello?» — узнікаюць асацыяцыі. Не настолькі, адказвае Улад. System of a Down мелі добрую стартавую пляцоўку, нягледзячы на акцэнт: «У Лос-Анджэлесе армян хіба больш, чым у Арменіі». А Gogol Bordello бяруць не толькі і не столькі акцэнтам: «Такіх гуртоў, што граюць цыганскі рок, многа, хіба не ў кожным горадзе ёсць. Але Gogol Bordello — адзіныя, хто пракачаўся».

Беларускі акцэнт Kiwi Time больш праяўляецца ў іншым. На пачатку выступаў Kiwi Time гасне святло, вакалістка выконвае куплет з «Купалінкі». Пасля гэтага ўжо граюць больш звыклую для слухача англамоўную музыку. А ў сярэдзіне канцэрта выконваюць рускамоўную песню «Льёт дождь». «Для амерыканцаў гэта экзатычны шок», — кажа Улад.

«Ёсць меркаванне, што пра Бярозу павінен ведаць увесь свет», — смяецца Улад.

### Альтэрнатыўнае мысленне для Беларусі

Ці мае гурт жаданне вярнуцца на радзіму? «Ёсць, але ненадоўга, — кажа Улад. — Не лічу сябе чалавекам, які пускае карані. Ды і мэта мая ад месца не залежыць».

Да Беларусі яму хацелася б данесці філасофію іншага, альтэрнатыўнага мыслення. На яго думку, у ЗША большасць ужо ўзняла свой дабрабыт да таго стану, калі можна больш увагі надаваць унутранаму свету.

«У Беларусі апошнія 25 год усё мітуслівa і незразумела», — кажа ён. Яму здаецца, што беларусы думаюць больш пра знешнюю бачнасць дабрабыту, пра тое, як сябе паказаць.

Жыццё ў ЗША, кажа ён, дазволіла інакш паглядзець на свет і на сябе самога. З цягам часу Улад пачаў займацца не толькі музыкай, але і ёгай — цяпер падпрацоўвае інструктарам.

Ён згадвае, што амерыканская атмасфера яго паглынула настолькі, што, быўшы нядаўна ў Маскве, ён адчуў сябе нібы ў рэаліці-шоу — настолькі ўсё адчувалася ненатуральна, настолькі людзі незвычайна хадзілі і глядзелі адно на аднаго.

Што Улад робіць у спісе топ-прадпрымальнікаў?

На гэтае пытанне Улад не мае адказу: «Дагэтуль пытаю сам сябе пра поспех. Не асабліва разумею, як адбылося, што я трапіў у той спіс».

Паводле ўмоваў спіса, у яго ўключаныя сярод іншых «прадстаўнікі сферы культуры, якія маюць перспектывы і магчымасці атрымання высокіх ганарараў і манетызацыі вынікаў сваёй працы ў будучыні».

«Мы з гуртом вельмі чакаем, калі гэта адбудзецца. На дадзены момант гурт — гэта як стартап, малады бізнэс, што патрабуе неймаверных інвестыцый часу і фінансаў, — кажа Улад. — Але я лічу, што, каб быць паспяховым, трэба проста рабіць тое, што любіш, і не здавацца, а грошы прыйдуць, калі прыйдзе час».

Як кажуць Уладу слухачы, выступы Kiwi Time па энергетыцы даўно «перараслі» тыя залы, у якіх выступае гурт. На думку музыкі, першыя і свежыя трэкі — «як неба і зямля». «Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Галоўнае тут асэнсоўваць, над чым трэба працаваць, — кажа Улад. — Прыходзіцца напружвацца, але гэта прыемнае напружанне».

Назва гурту з цягам часу набыла новы сэнс і для аўдыторыі, і для музыкаў. Справа ў тым, што «ківі» ў Штатах называюць новазеландцаў. Таму і гурт часта прымаюць за новазеландскі. «Але пасля канцэрта ўсе ведаюць, што ёсць такая маленькая, але прыгожая краіна Беларусь», — сцвярджае Улад.

Сам гурт спачатку лічыў назву «джазавай», у нечым падобнай да Apple Tea. Цяпер жа назва значыць проста адкрытасць, свабоду і добры настрой.

«Гучыць як клішэ, але на дадзены момант гэта якраз адлюстроўвае стыль нашага жыцця ў Каліфорніі, — кажа Улад. — У пэўны момант я проста вырашыў, што хопіць думаць пра негатыў. Чалавек — гэта тое, што ён есць, п'е, думае і робіць, так што верце ў сябе — і ўсё ўдасца».

**Аляксандр Арсёнаў**



Падведзеныя вынікі конкурсу «Прэс-фота Беларусі — 2015». Гран-пры сёлета атрымаў Максім Сарычаў, ён працуе праграмістам, а фота для яго — хобі. Сарычаў зрабіў праект аб затрыманых прэвентыўна напярэдадні мінскага чэмпіянату свету па хакеі грамадскіх актывістах. Серыя атрымала назву «598 скрадзеных дзён». Праект пра тое, што прапусцілі людзі, трапіўшы ў турму. Штодзённае жыццё, каханыя людзі і сябры, планы, дробязі, радасці і засмучэнні ў адзін момант засталіся на волі і ва ўспамінах. На фота: Зміцер Дашкевіч з дачкой Марай.



Нашанівец Кірыла Хілько атрымаў другое месца ў адзіночных здымках у намінацыі «Навіны». А таксама трэцяе месца ў «Спорце» з серыяй пра скалалажанне.



Вулічныя мастакі робяць першыя накіды партрэта класіка беларускай літаратуры Васіля Быкава на трансфарматарнай будцы ў цэнтры Мінска. Пазней яны будуць аштрафаваныя, а графіці зафарбаванае. Яўген Ерчак, 2-е месца ў намінацыі «Партрэт».



Таксама сёлета была запачаткаваная новая намінацыя «Украіна». Першае месца атрымаў здымак святара, які трымае крыж і шчыт падчас сутыкненняў паміж антыўрадавымі дэманстрантамі і паліцыяй у цэнтры Кіева. 20 лютага 2014. Аўтар — Сяргей Гапон.



## Анекдоты і жарты

* * *

Званок у аддзел маркетынгу Трактарнага завода:

— Добры дзень! Хочам купіць у вас 100 трактароў.

— Добры дзень! У нас абед.

* * *

— Уладзімір Уладзіміравіч, як можна пражыць на пенсію?

— Што ў ЗША робіцца, бачылі?

— А...

— А ў Кіеве які бардак?

— Аднак...

— Наступнае пытанне.

* * *

Нішто так не псуе пятніцу, як нечаканы ўспамін пра тое, што сёння чацвер.

* * *

— А вы чулі, што беларусы георгіеўскую стужку замянілі цветам яблыні?

— Чаму яблыні, а не бульбы?

— А каб каларады не прылезлі!

* * *

Мая жонка апошнім часам стала часта ўжываць слова «гаджаты». Але неяк незвычайна, па складах.

* * *

Чым менш знаёмыя ведаюць пра тваё асабістае жыццё, тым больш удала яно складаецца.

* * *

У рэстаране наведнік робіць замову афіцыянту:

— Шклянку гарэлкі, келіх віна, чарку каньяку, фужэр шампанскага, кубак піва і чай. Чай, калі ласка, не крэпкі: у мяне сэрца слабое.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Лісты ў Рэдакцыю «Нашай Нівы»** ад салдатаў з ваюючай арміі. Мы, беларусы: П. Субач, А. Лугін, К. Трэймак, П. Савоська, Б. Гарбуль, М.Высоцкі, Р. Цыдзаноўскі, С. Мацейка і іншыя — шлём ад усяго сэрца вялікую падзяку за газету «Наша Ніва», каторая прыносіць ведамасці ад нашых братоў-беларусаў.

**«НН». №16. 1915.**

**«Мы жывём хароша**, у нас мір і чыстыя вуліцы, мы не галадаем, а што яшчэ трэба? Слухаючы соты раз гэтую вулічную філасофію, я падумаў: калі б у свіней на калгаснай ферме можна было ўзяць інтэрв'ю, дык адказы былі б такія самыя. Наша спеўная рэвалюцыя адбудзецца не тады, калі прыдуць гранты або дастане рэжым правіцеля. Грантаў ніколі не будзе дастаткова, а рэжым мы вытрымаем любы. Сённяшні з тых, якія бачылі, яшчэ самы ліберальны. Наша рэвалюцыя пачнецца тады, калі нам самім абрыдне наша штодзённасць і паўсюдная хлусня», — з эсэ Сяргея Дубаўца «Жыць у праўдзе».

**«НН». №16. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 28.04.2015.
Замова №1168.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

